ББК 84Бел7
К 84

В своей книге известный белорусский поэт Евгений Крупенько передает тревогу современного мира, твердую решимость советских людей отстоять мир и счастье на земле. Во многих стихотворениях воспеваются дружба народов, природа; интересны стихи о любви.

Многие строки поэта переведены на русский и украинский языки.

К $\frac{4702120202-161}{М302(03)-88}$ 53—89

ISBN 5-340-00198-9



## ДВА СЛОВЫ

На стрэхах — клёкат буслiны.
Сцежка — у гай пявучы.
Як помнiк далёкай былiны,
Сасна на дняпроўскай кручы.

I калыханка сыну —
Мацi пявучыя словы.
З пахам духмяным кмiну
Хлеб на лiстах кляновых.

I колькi нi буду жыць я,
Да слёз маё сэрца расчулiць
Плач перапёлкi ў жыце,
Як плач удавы-матулi.

Таполя шызага дыму
Над комiнам ранiцою.
Два словы —
Мацi, Радзiма —
Заўсёды жывуць са мною.

# ВЯНОК БРАТЭРСТВА

## I

І ў хмуры дзень, і ў дзень праменны сіні
Ты, Украіна,— любая сястра.
Люблю разлівы роднага Дняпра,
Які бярэ вытак свой у Расіі.
З малога ручайка у поўнай сіле
Цячэ рака братэрства і дабра —
Купаюцца ў ёй сонца і зара,
Што над Радзімай ярка засвяцілі.
Мне дораг Канеў. На гары Чарнечай
Нізкі паклон аддам магіле вечнай,
Здаецца мне, што дарагі Кабзар
Глядзіць народу па-братэрску ў твар.
Рэспубліка-сястра! Як май, красуй!
Люблю тваю пяшчоту і красу.

## II

Люблю тваю пяшчоту і красу,
Пявучую, як песня маці, мову.
Вяду з сябрамі шчырую размову
І кнігі тваіх аўтараў нясу.
Яны — і дар, і скарб мой дарагі!
Мне зразумела ўсё ў арыгінале,
Навекі песні дружбы нас з'ядналі,
Нібы Дняпро крутыя берагі.
Яно плыве у сонечныя далі.
Крывёю мы братэрства змацавалі,
Бяда у друга — лью сваю слязу,
У друга радасць — усім сэрцам рады,
Бо чалавек — высокая пасада,
Я вернасць і любоў заўжды нясу.

### III

Я вернасць і любоў заўжды нясу,
Прымі пяшчоту слоў маіх, расійка,
Ты чыстая, як на лістку расінка,
Якую я з лістка не атрасу.
Вянок я запляту ў тваю касу,
Калі на вейцы з'явіцца слязінка
Няпрошана, яе ў адну хвілінку,
Як родны брат, заўсёды асушу —
Такі у дружбы вернасці закон:
Калі любіць, любіць да скону дзён,
Ісці, адольваць цяжкасці любыя
І разам сонца сустракаць усход.
У поўны рост устаў і мой народ,
Пакляўшыся ў любві табе, Расія.

### IV

Пакляўшыся ў любві табе, Расія,
Ішлі мы поплеч праз агонь і дым,
Не думалі, хто вернецца жывым —
Па нас у кожнай хаце галасілі.
Матулі ў бога літасці прасілі,
Ды толькі бог нямым быў і глухім.
Сваёй крывёй зямлю мы арасілі,
Гаворым аб чацвёртым, як жывым.
Загад суровы і сяброўскі голас
Цябе ў атаку ўзнімаў, салдат.
Хацеў на ніве вырасціць ты колас,
Ды не вярнуўся да сваіх прысад.
Той колас сёння ўнукі ўзрасцілі
У небывалай велічы і сіле.

## V

У небывалай велічы і сіле
Для пакаленняў, будучых вякоў
Ад Брэста да Курыльскіх астравоў,
Як на граніце, ты стаіш, Расія.
Не згасне слава вечная бацькоў,
І мы, нашчадкі легендарнай славы,
Стаім на варце рубяжоў Дзяржавы,
Каб хмары сонца не зацьмілі зноў.
Паклон табе, салдат і абаронца!
Зярняты прабіваюцца да сонца,
Над борам зырка ўспыхваюць заранкі,
А іх раней ты сустракаў з каханкай
І цалаваў і губы, і касу —
Цяпер вартуеш ты жыцця красу.

## VI

Цяпер вартуеш ты жыцця красу.
І я з кустоў расу не атрасу —
Бясконца у жыццё я улюбёны,
У ціхую бязвоблачную рань,
І ты сама навокал толькі глянь —
Ужо зара пазалаціла клёны.
І хараство баюся патрывожыць,
Я ў захапленні вечным перад ім.
Жадаеш — пойдзем борам векавым,
Дзе кожная сасонка заваражыць.
Ты любіш лесу дзіўную красу,
Давай жа пойдзем сцежкаю мурожнай,
Там ты — сястра бярозцы белай кожнай,
У цішыні п'юць салаўі расу.

## VII

У цішыні п'юць салаўі расу
У залатой малінавай дуброве.
І я — як дрэва ў маладой абнове:
Глыбей карэнне — я вышэй расту.
Я дзякую табе, зямля бацькоў,
За цішыню, за песні салаўёў
І за матуль шчаслівых калыханкі.
Я дзякую табе, мая зямліца,
Што не грыміць над краем навальніца,
А мірныя праменяцца заранкі.
Я дзякую табе, зямля, за лёс,
Што нарадзіўся, і шчасліва ўзрос,
І крочу ў сваім росквіце і сіле,
Хаця і травы ногі арасілі.

## VIII

Хаця і травы ногі арасілі,
Пакуль раса — трымай, касец, касу!
Далоў раса — дамоў касу нясу,
Пракосаў не злічыць, што накасілі.
Іх вунь дзяўчаты граблямі разбілі,
А вечарам саборамі стагі
Дняпроўскія ўпрыгожаць берагі,
Мы дружнай талакой іх завяршылі.
Як пахне мятай скошаны мурог!
І, стомлены крыху, пад стог прылёг,
Прапах мурожным сенам кожны волас.
Гарачы час — не час адпачываць,
Зажынкі трэба хутка пачынаць —
Густое жыта і трава у пояс!

## IX

Густое жыта і трава у пояс
Стаяць наўсцяж высокаю сцяной,
Іх гладзіць ветрык цёплаю рукой,
У спёку лівень шчодра іх напоіць.
Трывожуся, каб смертаносны град
Над ураджайнай нівай не пранёсся,
Зрабіў заўчасны абмалот калосся
І не абтрос за кожнай хатай сад.
Люблю цябе, гасціннае застолле!
Гасцей заўжды страчаем хлебам-соллю,
Жытнёвы сноп на покуці стаіць —
Як на дзяржаўным гербе кожны колас,
Што ў сонцы гэтак зорка прамяніць...
Мне любы птушак спеў, зязюлі звонкі голас.

## X

Мне любы птушак спеў, зязюлі звонкі голас,
Люблю дугу-вясёлку над зямлёй,
Прастор яна ўпрыгожыла сабой,
Вярнула маладосць мне і вясёласць.
Вядзе мяне дарогаю ўлюбёнасць
У белы гай сцяжынкаю любой,
Хаця былое ўсё сплыло вадой,
А добрае — на ўсё жыццё чароўнасць,
Бо ў чалавека спадарожнік — памяць.
Люблю вясны пялёсткавую замець,
Калі прыходзіць першая любоў.
Люблю начлег. Пасуцца мірна коні.
Пячэцца бульба — круглая, як поўня.
Люблю гамонку векавых бароў.

## XI

Люблю гамонку векавых бароў
І шчыра, як каханай, прызнаюся:
Бары такія толькі ў Беларусі —
Падобных ім нідзе я не знайшоў.
Яны гамоняць голасам вятроў,
Яны іграюць музыкай смычкоў,
Для ворагаў яны — жывыя мсціўцы.
Не раз у вочы ім глядзела смерць.
Жывіцай пахнуць чыстыя масніцы,
Ступі нагой — яны гатовы пець.
Цымбалы граюць наваселле зноў,
У хаце дружбе цесна не бывае;
Гаворыць украінка маладая,
Вітае рускіх дарагіх сяброў.

## XII

Вітае рускіх дарагіх сяброў
І мова беларуская жывая,
А пра Дняпро ўкраінка заспявае,
Здаецца, што ён выйшаў з берагоў.
Імчыцца плынь, як сотні галасоў,
Бо песня пра Дняпро народнай стала,
Яна навек народы паяднала
І надзяліла дружбаю братоў.
Я гэту дружбу праз гады пранёс.
Адзіны горкі выпадаў нам лёс,
Але браты змаглі бяду асіліць.
Будуем новы, шчасцем светлы свет.
Ляцім да зор, нязведаных планет,—
Навекі Беларусь з табой, Расія.

## XIII

Навекі Беларусь з табой, Расія,
Тваім стагоддзям і сынам хвала!
Ты іх усіх на подзвіг узняла
У самую смяротную часіну.
Ты надзяліла мужнасцю і сілай,
Адвагу нечуваную дала
І смертаносных ворагаў скрышыла,
Да зор Сцяг Перамогі узняла.
Ёсць у народа права на бяссмерце,
Табе стаяць вякі на гэтым свеце —
Прымі паклон наш беларускі нізкі.
Мы кланяемся моўчкі абеліскам,
Здымаем шапкі. Кожны крок тут спыніць,—
Ніякі вораг дружбы не асіліць.

## XIV

Ніякі вораг дружбы не асіліць.
З'ядналая ў магутны наш саюз
Расце, як май, квітнее — Беларусь.
Пад ясным сонцам, небам чыстым сінім.
Народаў дружба — гэта ты, Расія!
Прымі прызнанне шчырае ў любві
І ад мяне, твайго, Айчына, сына:
— Заўсёды ў вечнай радасці жыві!
Мы — міру, і жыцця, і шчасця творцы,
Надзея на планеце ўсіх людзей,
Мы — ленінскае праўды святланосцы,
Яго жывых і велічных ідэй.
Адданы роднай партыі заўсёды:
Яе ўсе думы — думы ўсе народа.

## Магістраль

Люблю цябе і ў хмуры дзень і ў сіні,
Люблю тваю пяшчоту і красу.
Я вернасць і любоў заўжды нясу,
Пакляўшыся ў любві табе, Расія.
У небывалай велічы і сіле
Цяпер вартуеш ты жыцця красу.
У цішыні п'юць салаўі расу,
А ногі мае травы арасілі.
Густое жыта і трава у пояс,
Мне любы птушак спеў, зязюлі звонкі голас,
Люблю гамонку векавых бароў,
Вітаю рускіх дарагіх сяброў.
Навекі Беларусь з табой, Расія,—
Ніякі вораг дружбы не асіліць!

## АСЕННІЯ АКТАВЫ

*Нілу Гілевічу*

### I

Неяк не заўважыў я, калі
стала ў птушак песня недапета:
толькі пратрубілі жураўлі —
адышло у восень маё лета.
Я ішоў нялёгка па зямлі,—
і ты добра разумееш гэта:
нездарма, нібы на небе поўня,
і зазімак лёг на мае скроні.

### II

І зазімак лёг на мае скроні
і на скроні лёг маіх сяброў,
што з-пад Гайны, Случы, Сожа, Проні,
дзвінскіх і дняпроўскіх берагоў.
Лёг зазімак. З памяці не сцерці:
дзеці — мы вайну перажылі.
Колькі было жудасці і смерці?!
Ля Дняпра ўспаміны усплылі.

### III

Ля Дняпра ўспаміны усплылі —
мы іх бачым, ловім кожным словам,
танкі пляжаць жыта на зямлі,
пазаціхлі песні у дубровах,
бежанцы на ўсход ішлі, ішлі,
і зара барвовая над Шкловам.
Не, не пазабудуцца ніколі
успаміны — дзён далёкіх коні.

## IV

Успаміны — дзён далёкіх коні —
ад мяне нікуды не збягуць,
як ніколі, хочацца сягоння
цеплыню сяброўскіх рук адчуць.
Дабрыню заўсёды добра помню,
хоць не ўсе з сабой яе нясуць,
толькі размаўляюць палюбоўна,—
гэта разумееш ты цудоўна.

## V

Гэта разумееш сам цудоўна,
хто зайздроснік, хто сапраўдны друг:
ты — і бог, і суд сабе вярхоўны,
і глядзіш па-іншаму наўкруг.
I калі паслужыць мне здароўе,
дакашу няскошаны свой луг:
навастру касу — і па траве!
I таму даверыўся табе.

## VI

I таму даверыўся табе,
гавару аб самым запаветным,
што жыло у сэрцы і жыве,—
крыху сумнаватым, болей — светлым.
Цеплыні, святла яшчэ даволі,
ды гады не вернуцца ніколі.
Гэта мы адчулі па сабе:
лісце вецер з дрэў, як конь траву, скубе.

VII

Лісце вецер з дрэў трасе, скубе
і пад ногі ў лужыны шпурляе.
Я, любоў, спяшаю да цябе,
ты ў мяне, як песня дарагая:
калі я у журбе — яна ў маёй журбе,
калі радасць — радасць падзяляе.
Ты пра дрэвы кажаш памяркоўна:
елкі маладзяцца усё роўна.

VIII

Елкі маладзяцца усё роўна:
мы, маўляў, свой захавалі ўбор;
можа, гэта нават і цудоўна,
і цябе я разумею, бор:
на жыццё глядзіш не павярхоўна,
у цябе — устойлівы узор.
Паглядзі, сяброўка дарагая,
верасамі восень дацвітае.

IX

Верасамі восень дацвітае,
на балотах — чырвань журавін:
пойдзем, калі ласка, назбіраем,
каб зімой быў добры успамін.
А важак апоўначы збірае
журавоў у жураўліны клін.
І дзяўчат вясёлы чую смех,
і павёў я коней на начлег.

## X

І павёў я коней на начлег,
і нібы ў маленства я вярнуўся:
зноўку бульбу ў прысаку пячэм,
Смажым сала...
Восень Беларусі!
У цябе і колер свой, і смак,
што не забываецца ніяк.
І павёў я коней на начлег:
«Час турбот і роздуму разбег».

## XI

Час турбот і роздуму разбег
наступае, як прыходзіць сталасць.
І хоць на душы сумотней стала,
што так непрыкметна час прабег:
трэба ўсё узважыць мне як след,
што зрабіў і не зрабіў паэт —
і таму бяссонніца такая
у спакоі нас не пакідае.

## XII

У спакоі нас не пакідае
думка, што не скошана атава,
што заўчасна хтосьці памірае,
што ў кагось не ўладжаная справа,
што кагосьці нехта забывае,
што яшчэ не скончана актава.
І таму заўсёды неспакой
уначы ўзнімае як рукой.

## Магістраль

Неяк не заўважыў я, калі
і зазімак лёг на мае скроні.
Ля Дняпра ўспаміны усплылі,
успаміны — дзён далёкіх коні.
Гэта разумееш ты цудоўна,
і таму даверыўся табе.
Лісце вецер з дрэў трасе, скубе,
елкі маладзяцца усё роўна.
Верасамі восень дацвітае,
і павёў я коней на начлег.
Час турбот і роздуму разбег
у спакоі нас не пакідае.

## МАНАЛОГ ПАДСТРЭЛЕНАЙ ПТУШКІ

Адкуль
з'явіўся
ён,
стралок,
што на мяне зусім знянацку
нацэліўся, націснуў на курок
і засмяяўся заліхвацка?
О, як бы мне
хутчэй
адплыць
туды,
дзе асака
шуміць!
Не падвядзі мяне, крыло —
маё адзінае вясло,
дай выплысці,
вяслуй,
грабі,
а толькі мне
жыццё вярні!
Вунь ён па асацэ зашастаў,
яна, трывожная, шуміць.
Навошта паміраць заўчасна,
калі так сэрца прагне жыць?
Кроў запяклася на крыле —
маім параненым вясле.
Апошнія сабраўшы сілы,
не апусціўшы галаву,
з крылом параненым плыву,
каб выправіць у небе крылы.
Яшчэ ўзнімуся, палячу,
магчыма, не сягну высока,
недасягальныя аблокі

крануць я крыламі хачу.
Як толькі выплыву з балота,
дзе не дае плысці мне твань,
сустрэну сонечную рань,
і ўсе забудуцца нягоды.
Ратуй мяне, маё крыло —
маё надзейнае вясло!

* * *

Думаў, вырас —
І далей не трэба,
Бо сваё сказалі ўжо гады.
Вунь і дуб,
Які сягаў да неба,
Асыпае звонка жалуды.

І цяпер стаіць,—
Яшчэ не голы,
Лісце не скідае да зімы.
І не падае нікому голас...
Нібыта нямы!

Толькі ж не нямы ён!
Я сцвярджаю:
Ён у сталасць увайшоў, як я.
Вымыты
Усімі ён дажджамі
Ад купчастай кроны да камля.

І прыняўшы
Столькі вострых стрэлаў
Вогненных —
Пярун у крону б'е —
Выстаяў
І сталасць сваю стрэў ён,
Пастаяўшы за сябе.

І цяпер ён,
Духам не упаўшы,
У маўчанні-роздуме стаіць,
Стрэне буры новыя ў бясстрашшы,
Будзе зелянець
І будзе жыць!

Будуць асыпацца
Зоры, ліўні
І раса іскрыцца у лісці.
На яго гляджу
У спелым жніўні —
І — усё ж! —
Патрэбна мне расці!



Я ведаю: не за гарамі час, калі
апошні раз ступлю я па раллі
і кінутае мною зерне дасць усходы,
што зашумяць даспелай збажынай.
І хоць ніколі не сустрэну свой
я шчодры жнівень важкі, умалотны,
прапахлы сонцам, ліўнямі і потам,
шчаслівы буду, што нашчадак мой
будзе ісці за плугам баразной
і будзе на стале надзённым хлеб заўсёды.



На свеце нездарма жыву —
зрабіць павінен многа:
каб думаць, маю галаву,
дарогі мераць — ногі,
а рукі — плуг трымаць, касу
і немаўля так песціць,
і, каб апець тваю красу,
ёсць словы ўсе для песні.
А сэрца у мяне адно,
у ім — любоў і радасць.
Пакуль жыву, нідзе яно
ніколі мне не здрадзіць.



Сквозь годы мчась...
*У. Маякоўскі*

Нябачная у цішыні бяссонніц,
Як быццам нерухомая заўжды,
Куды імчышся, вечнасць, ты куды?
Спыніся ля бяроз каля ваколіц.

Табе сябе патрэбна супакоіць,
А не ляцець галопам праз гады,
Праз вецер, праз спякоту, халады
У неакрэсленую невядомасць.

Спыніся і засні спакойна, вечнасць,
Пакінь у чалавека чалавечнасць,
Ласкавую пяшчоту, цеплыню.
Пад Млечным Шляхам ноччу жураўлінай
Пабудзь ты у бязмоўнасці хвіліну,
Як чалавек ля Вечнага агню.

* * *

Наш век такі: транзістары, ракеты,
Хтось памірае з песняй недапетай,
А мой сусед — дзядок зусім сівенькі —
Не можа адрачыся ад сявенькі —
Пасеяў жыта — і душой акрэп:
Жывы заўсёды думае пра хлеб.



Я святы. І нават грэшны.
Ды скажу без адкрыцця
Вам па шчырасці нарэшце,
Што чысцюткі, як дзіця.

Чалавечае сумленне
Не губляў і не згублю.
Толькі стану на калені
Перад тым, каго люблю.

Я у праўду толькі веру,
Шчырай дружбай даражу.
Дайце чысты ліст паперы—
Я ні слова не схлушу.

Хоць і многіх не уцешу,
Што я быў і ёсць такі,
Не зусім святы і грэшны,—
Крочу толькі напрасткі.



О, як імгненне мне знайсці такое
хоць раз адзіны у сваім жыцці,
каб дзіўны свет паўстаў перад табою
і ты, зачараваная красою
ягонай,
з месца не змагла сысці?
Скасіў касою светлы ранак цені.
У росах — сонца. І жаўрук звініць.
Ад неба да зямлі — жывая ніць...
Як трэба мне такое азарэнне,
каб свет, і час, і сэрца азарыць!
Каб цемені глыбокага бяздоння
нідзе ў паміне нават не было,
каб заручыўся з доляю бяздольны,
бясхлебны — з хлебам, а бяздомны —
з домам,
каб сонца выпраменьвала святло.
Каб аніхто нідзе не заблудзіўся
і зразумеў дзівак, што ён дзівак,
каб на трывогу чалавек забыўся,
хто заблудзіўся ці з дарогі збіўся —
увачавідкі выйшаў на бальшак.
З'явіся ты, малю цябе, імгненне,
адзіны раз, каб мог убачыць я
і свет і час. Я стану на калені
перад табой, каб толькі змог пасля
сказаць табе на схіле свайго дня
без горычы цяжкой: «Да пабачэння».

## НЕЗАЦУГЛЯНЫ КОНЬ

Па волі конь гуляў у табуне,
Па лузе росным, свежым і мурожным.
Мой конь даверлівы не з кожным,
Добраахвотна ён лавіўся мне.

Яго ласкава гладзіў я рукою,
Хлеба заўжды кавалачак даваў.
Незацугляны, ён ляцеў стралою,
Аж толькі вецер у вушах свістаў.

Ён, пэўна, быў вялікі летуценнік,
Калі ўмеў па-сапраўднаму любіць,
Ён ненавідзеў цуглі з нараджэння
І тых, хто мкнуўся волю зацугліць.



Прыйшла (калі — я не заўважыў) сталасць,
гляджу на мудрасць векавечных дрэў.
Жыцця высокі поўдзень я сустрэў —
і на душы трывожней неяк стала.

Хацеў бы стаць я зноўку юнаком,
ісці па роснай сцежцы на спатканне,
звінець у паднябессі жаўруком
і плакаць за няўдалае каханне.

Хачу, каб пра мяне сказалі людзі так,
стараючыся ласкаю суцешыць:
— Вялікае дзіця ты, эх, дзівак,
такі дарослы і такі ты смешны!

Ты паглядзі: які прывабны свет
і колькі дзіў на гэтым дзіўным свеце,
ідзі ў яго, нібы па чыстым снезе,
глыбока пакідаючы свой след.

Я ведаю: растане снег — сляды
сплывуць вясной імклівай ручаямі,
а свет — ён вечны, звонкі, малады,
сустрэўшы сталасць, я стаю ў адчаі.



Сумненні не даюць спакою мне.
І хоць яны заўсёды у маўчанні,
але даводзяць часта да адчаю —
сумненні не даюць спакою мне:

Ці ўсё паспеў зрабіць на свеце я?
Як загаіць вясны далёкай рану?
...У небе недзе зорка ёсць мая,
магчыма, што яшчэ яе дастану.



Мяняюцца за днямі дні.
Згарэлі клёны у агні.
Лугі дакошаны. Імжа.
Што робіцца з табой, душа,
У гэтай змене дзён, калі
Тугі прыбавілася болей?
Яе, шчымлівую да болю,
Не адтрубілі жураўлі,
З сабою не ўзялі ў дарогу,
А ранілі, як пяро,
Яны ўначы на мой парог,
Каб я узяў яе з парогу.
У змене дзён усё радзей
Над галавою сонца ўстане.
Хоць улюбляецца лягчэй,
Цяжэй адлюблівацца стала.

* * *

З трывогай у сэрцы, нямоўкнучым болем
З гадамі сябе дакараю ўсё болей.

На сцежках якіх у жыццёвых турботах
Куды пагубляў да цябе я пяшчоту?

Кукуюць зязюлі у звонкіх дубровах,
А я не знаходжу ласкавыя словы,

Якія б у сэрца запалі, сагрэлі.
Ды толькі, як лісце, яны абляцелі.

Асірацелы, як куст, у самоце,
Як вецер, хаджу я адзін па спякоце

З душою за пазухай.
Засуха.

## ЛЕТА НА СХІЛЕ

Пакуль яшчэ шчодрае сонца гарачае
Стаіць на высокім сваім небасхіле,
Ды адчуваецца: штосьці мной страчана —
Лета на схіле.

Адпалыхалі заранкі, адбліскалі,
Конікі ўночы лугі дакасілі,
Шчымліва на сэрцы: далёкае блізка ўжо —
Лета на схіле.

Грамы навальнічныя ў небе адляскалі,
Ліўні над полем адгаманілі,
І адцвітае апошнімі краскамі
Лета на схіле.

Лес пасвятлеў, і далёка ўсё бачыцца,
Першае лісце бярозы ўранілі.
Сёння іначай глядзіш на ўчарашняе —
Лета на схіле.

Чыстае неба. Раніца ціхая.
На палахлівай дрыготкай асіне
Толькі сініца зрэдку заціпькае —
Лета на схіле.

Над паплавамі, дняпроўскімі кручамі
Чароды птушыныя днём закружылі,
Крыкам тужлівым іх неба агучана —
Лета на схіле.

Падаюць зоркі, як іскры з-пад крэсіва,
Гулка, на небе сваё адсвяцілі.
Тое, што страчана, болей акрэслена
Бачыцца сёння —
Лета на схіле.

2 Зак. 1522

* * *

Любоў да яго адчулі,
Стоячы ў каравуле.

На могілках і на памінках
Сказалі шмат цёплых слоў.

А пры жыцці ніколі
Не меў ён столькі сяброў.

## ПАН

*(З карціны Урубеля)*

Няўжо так хутка век мой праляцеў?
Няўжо ніколі юнаком не стану?
Няўжо, як пальцы, ўвесь адзервянеў
І, як трава асенняя, завяну?
Знікайце, думкі чорныя, з вачэй,
Садзіся, месяц, як дзіця, на плечы! —
І я з табою буду маладзей
У бор жыцця шумлівы вечна бегчы.
Ручай бяжыць. Высокі травастой.
Дзівосны свет адкрыецца нанова —
А сівізна бялюткаю зімой
Засела ў доўгай барадзе жыццёвай.

## ПРАДЧУВАННЕ

Сонца вышэй — як соты, снег.
Сцякаюць капяжы са стрэх
і разбіваюцца са звонам.
У трубку скручаны лісток
трымаецца на валасок,—
не быць яму вясной зялёным.
Пасля яго абавязкова
з малюсенькай пупышкі новы
прысядзе птушкай на ґалінцы.
І па маіх дакладных звестках
іх будзе безліч, птушак весніх,
абмытых цёплай навальніцай,
народжаных вясны дыханнем.
Жыве прырода прадчуваннем,
што хутка ёй амаладзіцца.

## ГРУЗІЯ

### I

Гляджу на горы — да нябёс грамады —
Радзіма, як высока ты стаіш!
Імклівы бег свой скіраваўшы ўніз,
З крутых вяршынь спадаюць вадаспады.

Абвалаў гулкі гром і спеў цыкады.
Над ціхім Келасуры кіпарыс.
Не разгаданай мной гары абрыс.
І сонца ў кожнай гронцы вінаграду.

Снег на вяршыні чысты, як абрус,
На скакунах джыгіты гарцавалі.
Прамовіў толькі слова «беларус»
І ўміг пачуў:
«Дзень добры, генацвале!»

Каўказ! Ты ўвесь у пераліве радуг,
Руку на дружбу! Я сустрэчы рады.

### II

Руку на дружбу! Я сустрэчы рады,
Сустрэчы рады, Грузія, з табой,
Ты Беларусь маю завеш сястрой,
Вітаецца грузін са мной, як з братам.

«Моцна навекі з'яднаныя дружбаю,—
Ты паглядзі,— ён гаворыць мне, госць:
Дзе яшчэ Грузія акрамя Грузіі,
Дзе яшчэ Грузія іншая ёсць?»
Як саламуры, чыпары пявучыя.
Горы — суровыя сведкі вякоў.

Ударыш па шапцы, і дэвы над кручаю
Закружаць і споўняць жаданні без слоў».

Я слухаю легенды і паданні.
Узмыў да сонца быстры конь Мерані.

## III

Узмыў да сонца быстры конь Мерані,
Да зораў славу Грузіі узнёс,
Табе, паэт, зайздросны выпаў лёс —
Апець народа думы, спадзяванні,
Любоў пранесці праз выпрабаванні
І не баяцца ворагаў пагроз.
Зямлю, якую палюбіў да слёз,
Нікому ў сэрца не дазволіць раніць.

Перад бядой не стаўшы на калені,
Ты і ў бядзе, і ў радасці —
сумленне
Свайго народа, мужнага вякамі.

Дзе ў сечы стрэлы грозныя звінелі,
Гучыць свабодны голас Руставелі
За дзевяццю гарамі і марамі.

## IV

За дзевяццю гарамі і марамі
Дух барацьбы, свабоды не скарыць:
І хоць паэт заўчасна памірае,
Ды песня яго вечна будзе жыць.
Не задушыць яе пятлёй ніякай
На скрыжаванні горных пуцявін.
Ніхто з паэтаў так яшчэ не плакаў,
Як Руставелі, твой аддапы сын.

Як Тарыэл — у скуры тыгра віцязь —
Адзін ён змог любоў да сонца ўзвысіць,
Любоўю вернай дружбы шлях масціць.

Не можа той паэтам называцца,
Хто не умее свой народ любіць
І сэрцу шчырым сэрцам адклікацца.

V

І сэрцу шчырым сэрцам адклікацца,
Калі ты друга у гарах сустрэў,
І пасадзіць ля дома дзевяць дрэў,
Каб у народнай памяці застацца.
Павінен я да Марабды дабрацца
І дзевяці там плітам пакланіцца,
На дзевяць пераваляў узбірацца
І з дзевяці крыніц вады напіцца.
О лічба дзевяць! У цябе я веру:
Ступіўшы на гасцінную зямлю,
Мне ўсюды насцеж расчынялі дзверы,
Паказвалі рэспубліку сваю,
Я піў мачары з дзевяці ўсіх квеўры,
Я дзевяць тостаў чуў пра наш саюз.

VI

Я дзевяць тостаў чуў пра наш саюз.
І узнімаў паўнюткія бакалы
За мову Руставелі і Купалы,
За непарушнасць дружбы братніх муз.
І шматгалоса моцна, нібы гром,
«Ваша!» — крычалі дружна за сталом.

Пасля ўзбіраўся на Эльбрус, Казбек
І позіркам акідваў краявіды:

Цвілі ткемалі белыя, як снег,
І ружы Алазані і Калхіды.

Чуў рокат Церака і бачыў бег Куры,
Ніколі я не пазабуду Мцхета.
Усюды ў мяне ў Грузіі сябры,
«Мравалжавіер!» — зычылі паэты.

VII

О Грузія — краіна дзіўных гор,
Далін цвітучых, сонца, вінаграду!
І для мяне ты — дарагая лада,
Любімая сястра сваіх сясцёр,
І як ніколі шматгалосы хор
Гучыць у сэрцы ў пералівах радуг.

Загартавана сэрца тваё ў тонэ,
Ты ўмееш гаварыць у мужным тоне
У час бяды, узяўшы зброю ў рукі.
Свяціць заўсёды сонцу ў небе сінім —
Ягоравымі славіцца Расія,
Ёсць у Кантарыя сыны і ўнукі!

ТЛУМАЧЭННІ:

*Генацвале* — сябра, таварыш;

*«Дзе ячшэ Грузія акрамя Грузіі...»* — радкі грузінскага паэта-рамантыка Р. Арбеліані (1809—1883).

*Саламуры* — жалейка;

*Дэвы, дэў* — дзівы (дзіў) — у грузінскіх легендах і казках; *Мерані* — казачны крылаты конь у грузінскім фальклоры і

паэзіі. Вобраз Мерані стаў асабліва папулярным пасля з'яўлення верша М. Бараташвілі «Мерані».

Лічба дзевяць у грузінскага народа лічыцца магічнай.

*Марабда* — сяленне ва Усходняй Грузіі, дзе ў 1624 г. адбылася бітва паміж грузінскім войскам і полчышчамі шаха Абаса I.

*Тарыэл* — галоўны герой паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры»;

*Мачары* — маладое віно; *ткемалі* — алыча;

*Квеўры* — укапаны ў зямлю гліняны коўш (звычайна вялікіх памераў), у якім захоўваецца віно;

*«Ваша!»* — усклік, выкрык, накшталт «ура!»;

*Мравалжавіер* — пажаданне жыць шмат гадоў;

*Мцхета* — старажытная сталіца Грузіі (да V ст.), дзе зліваюцца Кура і Арагві.

*Тонэ* — асобая печ для выпякання грузінскага хлеба.

## ЦЕРАК

Терек воет, дик и злобен,
Меж утесистых громад.
*М. Ю. Лермантаў*

Як дзікі звер, што вырваўся з палону
і на свабодзе апынуўся зноў,
свайго не пакідаючы разгону,
мчыць Церак да каспійскіх берагоў.

Назад не азірнуўшыся ні разу,
бурлівы не спыняючы паток,
ён вечны бой вядзе ў гарах Каўказа,
без бою ён згубіўся б і замоўк,

разбіўшыся, спадаючы з вяршыні,
ляжаў бы у цясніне дзень пры дні,
і не было б той быстрацечнай плыні,
што ўся кіпіць у радужным агні.

Упарты і настойлівы, нямала
пераадолеў перашкод цяжкіх,
бяжыць, як звер азлоблены, з Дар'яла
і не спыняе бег свой ні на міг:

калі спыніцца, значыць, прытаміцца,
а прытаміцца — назаўжды спачыць,
а, значыць, сэрца перастане біцца
і назаўсёды голас замаўчыць.

Такі закон жыцця. І ён спрадвеку
непарушальны і святы закон:
ісці і не спыняцца чалавеку,
а бурным рэкам не спыняць разгон,

імчацца праз гады заўжды наперад,
адольваць перашкоды-валуны

і зносіць іх з сабой, як зносіць Церак
на дно марское ў небыццё і сны.

Для гэтага і не шкада разбіцца,
дарогу і ў гарах сабе прабіць,
каб голас твой мог з гулам буры зліцца,
і азарыцца зыркай бліскавіцай,
і грымнуць громам — вечнай прагай жыць.

* * *

Бляск бліскавіцы, востры, як страла,
ударыў у гару — нямое цела,
дзе толькі прамільгнула цень арла
і рэха з камняпадам паляцела.

І, рухнуўшы ў цясніну са скалы,
звінела, як пявучыя каменні.
Дадолу прыгінаюцца ствалы,
і дрэвы вырываюцца з карэннем.

Ніякіх болей не было ахвяр.
Бурліў паток успенены імкліва.
Гара адвесці не змагла удар,
Застыла у суровасці маўклівай.

І калі вестка з чорнаю бядой
Пастукае ў акно ў неспадзяванку,
Заплача сэрцам, толькі ні адной
З вачэй слязы не выпусціць гаранка.

Хоць пасівее ў гэты міг яна,
Ды, гордая, не вымавіць і слова,
Будзе стаяць падоўгу ля акна,
Нібы гара ў маўклівасці суровай.

## НАВАЛЬНІЦА Ў ГАРАХ

Полагам чорным горы спавіты,
цемень — хоць выкалі вока.
Гром, бы ўстрывожаны буйвал сярдзіты,
голас падаў свой здалёку,

аж страсянуліся неба і хмары,
агністыя блiснулі стрэлы.
Не пахіснуліся горы і ўдары
мужна сустрэлі.

Каменні ляцяць, як асколкі снарадаў,
на целе грамадаў — раны.
Лівень праліўся — і вадаспады
ракочуць арганам.

Горных вяршыняў белыя біўні
з хмарай зліліся.
Музыка грому, музыка ліўня
падае з высі.

* * *

Нібы атары, у поўдзень, гарачую спёку
на горных вяршынях у стоме заснулі аблокі.

Заснулі аблокі — і ціша навокал такая,
што чуецца нават, як дыхае траўка малая.

Дыхае траўка малая. І, стоячы ў пільным
дазоры,
арол на вяршыні вартуе і цішу і горы.

## ВОЗЕРА РЫЦА

Колькі б табе, вузенькая сцежачка, ні віцца,
Як ты ні пятляеш, толькі мне не збіцца,
Я ўсё роўна выйду да возера Рыца.

Ах ты, Рыца, Рыца — горных рэк царэўна!
Не назваў бы гэтак я цябе, напэўна,
Каб не стрэў грузінку раніцою спеўнай:

Стройная чынара, вочы — бліскавіцы,
На мяне зірнула, нібы чараўніца,
І пайшла. Дзе знікла, падкажы мне, Рыца.

Пра яе мне горы песню праспявалі,
І пясчаны бераг цалавалі хвалі.

## ТРЫВОЖНАЯ ПАМЯЦЬ

Гром, як гарматны выбух,
так страсянуў наваколле,
аж горы сівыя уздыбіў,
нібы замыленых коней.

А горы стаяць — ні з месца,
падпёршы вяршынямі высі,
а грому — куды было дзецца? —
аб скалы крутыя разбіўся

і гулкім адклікнуўся плачам,
спадаючы у бяздонне,
бо лёс свой не перайначыш,
калі ты зусім бяздомны.

Я ўсё назіраў з трывогай,
нібыта у тым вінаваты,
што з гнёздаў павыпадалі
маленькія арляняты.

Іх маці-арліца лавіла,
ды толькі не ўратавала,
а следам з вяршыні лавіна
снежная
ўніз спадала.

У восень кацілася лета
з громам і бліскавіцай.
А мне не забыцца дагэтуль
клёкат жалобны арліцы.

•

## ЛІТІНСТЫТУТУ

Цвярскі бульвар, дом дваццаць пяць —
Ніколі не забуду адрас:
Паэзія, любоў і радасць —
Не проста гэта перадаць.

Пачаўшы шлях з «Чырвонай змены»
Яшчэ у школьныя гады,
Яны ідуць са мной заўжды,
Як спадарожнікі, нязменна.

Куды ні глянь — шырокі свет,
Такі абсяг не згледзіш вокам.
І я, прыехаўшы здалёку,
Вясковы хлопец, не сакрэт,
Сказаў Маскве:
— Як адшукаць,
Мая любімая сталіца,
Ліцэй, дзе я хачу вучыцца:
Цвярскі бульвар, дом дваццаць пяць?

На сонцы загарэлы твар,
Я пахнуў кмінам, жытам спелым,
Ішоў з вакзала крокам смелым,
Шукаючы Цвярскі бульвар.

І вось ён, дом той дваццаць пяць,
Які ўсяму вядомы свету,

Дзе робяць першы крок паэты,
Дзе вершы звонкія гучаць

На розных, блізкіх сэрцу мовах
І ў падрадкоўніках пасля.

Таму упэўнены быў я:
Паэтаў новая сям'я
Зрадніцца тут абавязкова.
Цвярскі бульвар, дом дваццаць пяць:
Сюды паклікала нас муза,
Сыноў з усіх куткоў Саюза,
Майстэрства, вопыт набываць.

І мы раслі, мацнеў наш голас,
Цвярдзей рабілася рука.
Я ведаў: з ручайка рака
Бярэ пачатак, з зерня — колас
Заўсёды вырастае тут.

Мая Масква, мой інстытут,
І праз гады, сустрэўшы сталасць,
Сяброў я помню галасы,
Аўтографы і адрасы—
Паэзія, любоў і радасць.

Вясна ў Маскве звініць, сваволіць,
Таполі весела шумяць.
Цвярскі бульвар, дом дваццаць пяць,
Цябе мы вечна будзем помніць.

Літінстытут! Усім здаля
Ты свеціш пуцяводнай зоркай,
Бо нездарма сваё імя
Табе аддаў вялікі Горкі.

* * *

З сэрцам на зямлі жыву адкрытым
і калі па шчырасці сказаць:
за гады пражытыя
пастскрыптум
не хапае часу напісаць.

## ПАД ВЯСЁЛКАВЫМ НЕБАМ — ЗЯМЛЯ

*Васілю Зуёнку*

За гарызонтам, дзе неба з зямлёю сышліся,—
узлезь на бярозку —
суседняя вёска відна,
ёсць рэчка, і бор, і далёкія высі,
на ніве бяскрайняй —
высокай сцяной збажына.
Калісьці я думаў: які малы свет!
Усё зразумеў — разгадаўся сакрэт!

### I

За гарызонтам, дзе неба з зямлёю сышліся,
у кожнага ёсць
запаветны з маленства куток:
Матуліна хата, дзе нарадзіўся
і у жыцці зрабіў першы свой крок,—
пакуль што нясмелы, ды толькі уласны,
які потым вывеў за родны парог
у свет неабдымны надзей і трывог,
які пакідаем заўсёды заўчасна.
Але покуль б'ецца сэрца ў грудзях
і дружна кусцяцца жытнёвыя ўсходы,
нас вабіць не толькі шырокі абсяг,
Радзіма маленства нас вабіць заўсёды.

### II

Узлезь на бярозку —
суседняя вёска відна,
і я яе першым, магчыма, угледзеў:
хаты — як хаты, ды толькі адна
была не падобнай на хаты суседзяў.

І з той незабыўнай далёкай пары
зусім не за хатай сачыў я:
уранку красу — залатыя шары —
з вядра пад акном палівала дзяўчына...

Мінула нямала гадоў з той пары,
ды помняцца стромы крутыя:
даўно адцвілі залатыя шары
і косы яе залатыя.

## III

Ёсць рэчка, і бор, і далёкія высі,
куды касманаўты-героі ўзняліся.
У дружнай сям'і касманаўтаў
бясстрашных —
мы ўсе ганарымся — ёсць двое і нашых:
спачатку — Клімук, і пасля — Кавалёнак
не раз узнімаліся ў неба да зорак.
Зямлю яны бачылі добра адтуль,
не забывалі любімых матуль
і родных мясцін на бацькоўскай зямлі,
дзе ўбачылі свет і, як жыта, ўзраслі.
І хоць запаветныя мары збыліся,
ды кожны з маленства свой любіць куток:
ёсць рэчка, і бор, і далёкія высі,
і ў полі жытнёвым расце васілёк.

## IV

На ніве бяскрайняй —
высокай сцяной збажына,
калоссе даспела і стала тугім і васковым.
І я ў адпачынку зрабіўся мужчынам вясковым,
турботы заўсёды ў мяне ад відна да цямна.
Хто кіне на ржышчы адзін каласочак
жытнёвы,

і я не заўважыў адразу і не прыкмеціў,
калі ён на ржышчы прарос,
сябе я віню, дакараю заўсёды сурова:
«Няўжо я аслеп — гэта ж хлеб,
што дамоў не прынёс?»
Я не забыў: у маленстве галодным,
сірочым тады ў беларускую восень
толькі ў сне наядаўся белага хлеба ўдосталь.

V

Калісьці я думаў: які малы свет —
то клінам сышоўся, то зоркаю свеціцца.
На ім жа размешчана столькі ракет,
каб знішчыць і свет, і на свеце усё.
Вось толькі націсне на кнопку вар'ят,
і мы, на зямлі, жыццялюбы,
не ўбачым ніколі ні блізкіх, ні хат,
ніхто не ўратуе тады нас ад згубы.

Пакуль свеціць сонца і краскамі пеніцца луг,
пакуль не згубілі мы розум цвярозы,
вар'ятаў, нібыта сабак на ланцуг,
давайце прывяжам — інакш будзе позна!

VI

Усё зразумеў я: цяпер — не сакрэт
і, мусіць, яго вам згадаю:
няпраўда, што сэрца старэе з гадамі,
калі пра любоў я табе прысвячаю санет.

Вясёлка іскрыцца. Яна абняла цэлы свет,
гляджу навакол — і нанова сябе адкрываю,
і, нібы ў семнаццаць, цалую цябе, абдымаю,
вясёлка над намі — які шматкалёрны букет!

Калі стрэну позірк задумны любімых вачэй,
ніяк не паверу, што ты ўжо мяне адлюбіла,
і я прашу сэрца: «Ты толькі, глядзі, не старэй,
калі, як святыня, любоў мяне так акрыліла.
Калі ж перастанеш ты горача біцца,
дык высахне чыстай любові жывая зямная
крыніца».



Старонка за старонкай — нашы дні,
з якіх гады жыцця складаюць кнігу
ад першага народжанага крыку
і да бальнічнай чуйнай цішыні.

Жыццё!
Дакораў на цябе не маю.
Я — сам жыццё з трывогай і бяссоннем,
нягодамі, заўсёдным неспакоем,
душой адкрытай, радасцю, адчаем,

дабром і злом, са смехам і слязою,
са светлым днём і цеменню начы,
з любоўю і нянавісцю зямною,
іду, каб чалавеку памагчы.

Я — грэшны і святы.
Я каюся і плачу.
Я ўсё раблю, што толькі захачу,
за кожную памылку і няўдачу
заўсёды вельмі дорага плачу.

Я — хлебароб,
Рашчу жыты.
Я — цесля.
Я многае зрабіць хачу паспець.
Я — моцны і бяссільны. Крочу з песняй,
з якой мяне разлучыць толькі смерць.

Заявіцца з касой яна аднойчы
і касане, нібы касец траву,
з плячэй маіх знянацку галаву,
і, як ад сонца, мне заплюшчыць вочы.

Чаму я не закончыў эпілог,
і сказ не дапісаў, і не паставіў кропку?
Я кожны дзень рабіў гэта знарок,
каб кожны дзень жыцця працягваць зноўку.

* * *

Пад сонцам поўдня — ад мяне далёкім —
Я не хачу быць болей адзінокім.
Баюся я маўклівай цішыні,
Якая, нібы дрэва карані
Магутныя, у поўнай сваёй сіле,
Схаваныя ў зямлі, нібы ў магіле.
У адзіноце — так яно бывае —
З карэннем дрэва бура вырывае.

## СЛОЎНІК

> Усердней с каждым днем
> гляжу в словарь.
> *С. Маршак*

Што слоўнік для мяне? Ён кніга
з кніг.
Надзённая. Як хлеб і як паветра.
Крыніца жыватворная, што з нетраў
Прабілася, глыбокіх і зямных.

І гавару я гэта ўсім услых:
Ён — кніга, неабходная паэту.
Чытай яго — не кане слова ў Лету,
А будзе жыць сярод людзей жывых.

Знайсці мне трэба слова сярод слоў,
Як скарб у сэрцы чалавечых схоў,
Каб салавей прысеў на падаконнік.

Бяссонніца. Турбота. Неспакой.
Таму заўсёды пад маёй рукой
Народа мова і багацце — слоўнік.

* * *

Я ў неба прыглядаюся пільней
і разгадаў адну з яго загадак:
яно такое ж, як было раней,
а я ў семнаццаць быў такі рамантык:
з нябёсаў зорку мог сарваць рукой,
як яблык, калі любай толькі трэба.
Зямлі не адчуваў я пад сабой
і не знаходзіў, дзе пачатак неба.

* * *

З'ява зусім будзённая,
Але затое штодня:
Вакзальная і перонная
Шматлюдная мітусня.

Хтось некага сустракае
Або праводзіць хтось:
Далёка друг ад'язджае
Ці прыбывае госць.

Хто плача, а хто смяецца,
Пакуль прыбудзе экспрэс.
А мітусня застаецца
Шумлівай, нібыта лес.

## СЭНС

І я пазнаў нарэшце сэнс жыцця,
Зусім інакшым свет убачыў белы
Вачыма не наіўнага дзіця,
Якому шмат было не зразумела.
І на пытанні розныя «чаму?»
Я дам адказ любому чалавеку
І растлумачу да драбніц яму
І зверху ўніз і знізу аж да верху:
Ад сонечнай расінкі на траве
Да зоркі у высокім паднябессі.
Пакуль на свеце чалавек жыве,
Ён, як ручай, шукае доўга сэнсу,
Пятляючы адзін па бездарожжы.



Я адшукаў радок, як баравік,
што ў ельніку ад грыбніка схаваўся.
На той радок забыўся, думаў, знік,
а ён ў маіх чарнавіках застаўся.
Ляжаў маўкліва. І не ведаў ён,
што у яго такі быў доўгі сон,
або, дакладней, доўгі адпачынак.
Я шкадаваў яго, нібы дзіця,
ён быў патрэбен мне дзеля жыцця,
цяпер знайшоў, ён жыць цяпер павінен.

* * *

Хаця і мной нямала пeражыта
спякот пякельных, завірух, дажджоў,
пад сонцам і захмараным блакітам
прыроды кнігу вечную нібыта
не дачытаў — чытаю зноў і зноў,
дзе мудрасць дрэў, лугоў мурожных, жыта
і ў паднябессі — песні жаўрукоў.





* * *

Зямля,
    што ляжыць у тваёй аснове?
Розныя чарапкі,
    што выкопваюць археолагі,
або залатыя манеты
    ці іншыя каштоўныя рэчы,
    якія былі ў нашых прашчураў?
Для навукі — гэта адкрыццё,
    дысертацыі, вучоныя званні
    і гэтак далей.
А для мяне, зямля,
    у тваёй аснове
    і па сённяшні дзень ляжаць
    зазубраныя паржавелыя асколкі
                                        снарадаў,
    капані — іх адразу знойдзеш
    у самых верхніх слаях.
Вывучаць іх не трэба —
    яны без слоў
    даюць яскравае ўяўленне
    перадавой лініі агню,
    дзе праходзілі траншэі батальёнаў.

## ГЕКЗАМЕТР БАРАЗНЫ

*Рыгору Барадуліну*

Баразну, толькі глеба прасохла,
піша зранку навостраным плугам араты,
А яна, як радок доўгі
і зусім не сучасны,
які чытаць цяжкавата,
Роўна кладзецца.
Ралля цеплынёю дыхае, нібы цела.
Араты ідзе за плугам:
трэба да вечара закончыць ворыва —
зямліца даспела.
Доўгая баразна,
за ёй ляжа другая, трэцяя,
магчыма, нават дваццатая, пакуль
Узарэ тое поле араты,
чалавек увішны і працалюбівы,
у якога ад асколкаў і куль
Ламоцце бывае,
ныюць старыя раны перад зменай непагоды,
І ён нікому не скардзіцца на боль,
да дактароў не звяртаецца:
ведае —
не дапамогуць яму ні пілюлі, ні ўколы,
Нельга сядзець,
склаўшы рукі,
быць чалавекам з боку — прыпёку,
У яго,аратага,
заўсёды ёсць справа,
і кожная неадкладная,
асабліва цяпер,
калі ён, устаўшы на золку,
Роўную, як Гамер паэму гекзаметрам,
навостраным плугам піша
на неўзараным полі баразну,

«Ых» — прамовіў,
але не мацюкнуўся,
калі лемяхом крышку болей адхапіў
адразу ж агрэх свой выправіў:
зрабіў баразну роўную, як струну,—
Глянуць люба на працу такую:
я шчыра зайздрошчу табе, араты.
Ох, як нялёгка прыходзіць на стол
у поце запрацаваны
надзённы наш хлеб!
Раллёй пульхнай стала глеба,
і ты, стаўшы сейбітам,
з сяўні раскідаеш залатыя зярняты,—
У хлебе — ўся сіла.
І ты разумееш гэта надзвычай добра:
без хлеба не пражывеш на свеце
і не напішаш верш.

* * *

Хата без дзяцей — агарод,
які зарос бур'янам,
Здзірванелае поле,
якое ні разу не крануў нарог,
Нават меўшы незлічонае багацце,
У такой хаце
Я і дня пражыць бы не змог.



І мне згадалася сасна.
На схіле лета,
Забранзавелая, яна
Стаіць, гайдаецца адна
Пад цёплым ветрам.
Стаіць, нібы дазор які,
У спелым жыце.
Над ёй ад ранку жаўрукі
Раняюць срэбныя званкі —
Звон у блакіце.
А уначы, калі кругом
Маўчаць прасторы,
Са звонам, як разбітым шклом,
Тут асыпаюцца дажджом
Даспелым зоры.
Спазнаўшы бедаў шмат, нягод
(Я гэта сведчу),
Стаіць сасна нямала год
Пад пенным Шляхам Млечным
У думах вечных.
Іх безліч, думак, у яе,
І ўсе — як споведзь,
Пакуль стаіць, пакуль жыве
І сіняву удосталь п'е —
Усё прыпомніць.
Мароз марозіць у зіму —
Стыне жывіца.
І за яе няма каму
Тут заступіцца —
Б'юць у крону бліскавіцы.
Ды ёй непадуладна смерць,
Сасну я разумею.
Безабаронная, цярпець
Яна умее.

* * *

Мой конь агністы, быстраногі конь,
Скачы хутчэй праз полымя-агонь,
Агню не бойся.
                        Ну чаго стаіш,
Хіба не бачыш, што ты ўвесь гарыш?
Глядзі: падковы залатыя згубіш
І ўсю красу агністую загубіш.
Не дакрануцца — апячэш далонь,
Мой конь агністы, дарагі мой конь,
О залацісты клён!

# ПАСЛЯНАВАГОДНЯЕ ПАСЛАННЕ

*Прафесару І. П. Данілаву*

## I

На марозе слова не прамовіць,
снег крамяным яблыкам скрыпіць.
Сумнавата штось, Іван Пятровіч,
з кім, скажыце, смутак падзяліць?
Слова друга лечыць, раны гоіць,
смагу ў спёку здолее ўталіць.
Я ніколі галаву не вешаў,
даражу сяброўствам так, як вершам.

## II

Хоць сяброў сапраўдных небагата,
ды затое ў шчырасць веру іх.
Мы — усе! — з вясковых выйшлі хатаў,
і жыццё мы ведаем не з кніг.
Без бацькоў, сыны удоў-салдатак,
з кожным годам меней нас, жывых.
Вынеслі мы голад, ліхалецце,
колькі пражывём яшчэ на свеце?

## III

Гэтае пытанне я, дарэчы,
задаю сабе невыпадкова:
растані часцей ў нас, чым сустрэчы,
і сябры не чуюць нашы словы,
калі іх ў апошні шлях праводзім...
Колькі пагубляў і я сяброў!
А на скрыжаванні бальшакоў
усё меней новых мы знаходзім.

## IV

Пра паэтаў мы гаворым часта:
— Адышоў, пакінуў нас заўчасна,
а якім ён чалавекам быў!
Дарагі Іван Пятровіч! Дружа!
Нешта я сур'ёзна занядужаў,
а яшчэ так многа не зрабіў,
і дзяўчат, што і зімой як ружы,
недацалаваў, недалюбіў.

## ПТУШКА ЎЛЯЦЕЛА Ў АКНО

Адліга на двары. Капеж сярод зімы.
І хмельнае вады напіўся зранку певень.
Закукарэкаў. Стук ў акно нямы.
Чаму не ў дзверы? Не знаходзіць, пэўна.

От, дзіва! Скуль з'явілася яно?
Гляджу я на яго незразумела.
Дык гэта ж птушка стукала ў акно
І нечакана ў хату уляцела.

Адна з нядобрых у жыцці прыкмет
(Я ведаю народныя прыкметы):
Пакіне нехта блізкі
Белы свет,
Напоўнены жыцця цудоўным кветам.

Сядзь, калі ласка, птушка, на далонь
Або на стол — мяне зусім не бойся —
Еш хлеба крошкі, не скідай далоў,
У хаце абагрэйся, супакойся.

Няхай цябе трывога не гняце
Так, як гняце цяпер мяне трывога.
Я бачыў смерць, і пеpажыў я многа
У адзіноце, суме, немаце.

І выжыў. І нічога не баюся.
І ведаю: наперадзе цяпер
Жыццё і мара, да якой імкнуся,
І нават смерць наперадзе, павер.

Залётная няпрошаная птаха,
Гняздоўе ві пад цёплаю страхой

І птушанят выводзь, не ведай страху.
Лятай, а ў вокны не ляці з бядой.

Яшчэ цябе прашу я асабіста:
Калі зіма халодная міне,
Ты паспрабуй у паднябессі чыстым
І песню праспяваць лепш за мяне.

* * *

У высокім паднябессі
Жаўрука злілася песня
З сонцам.

Урасло карэнне ў глебу,
Кронай цягнецца у неба
Дрэва.

Усяму вядомы свету
Розум ясны, розум светлы
Чалавека.

І адзінае таксама
Найсвятое слова «мама»
На вуснах сына.

Як мяне з табой, Радзіма,
Раз'яднаць іх немагчыма
Аніколі.



Самыя прыгожыя рукі, на якіх
ад плуга, касы і сярпа
выраслі цвёрдыя курганы мазалёў;

Самы найлепшы друг той, які
не хваліць у вочы,
а ў бядзе — на дапамогу першы
прыйшоў;

Самая цудоўная яблыня —
калі ўвосень яе галіны
згінаюцца ад цяжару пладоў;

Самая любімая жанчына,
якая дзяцей нарадзіла
і песціць малых унукаў;

Самая сардэчная песня —
якую табе
не праспявала яшчэ маё сэрца.



Якім бы высокім ні было Неба,
захмараным або чыстым, як акно,
да яго
аднолькава
цягнуцца
Чалавек, Птушка і Дрэва
усё жыццё.
А яно
такое неабдымнае, недасягальнае!
І ўсё ж імкнуцца спасцігнуць Неба
не толькі ракета глабальная,
але
і Чалавек,
і Птушка,
і Дрэва.
Прабіваюцца, як прадзіраюцца
зярняты стрэламі порсткімі з глебы,
яны
да цябе,
Неба.
Ты паглядзі, як яны ўзіраюцца
трое ў цябе:
Чалавек, Птушка і Дрэва!
Як дасягнуць цябе, Неба?

## ПАСЛЯ БУРЫ

Буры такой не было даўно.
Адкуль яна наляцела?
Дрэвы збівала проста з ног
Так, як яна хацела.
І не проста збівала.
Яна спачатку,
Разгайдаўшы да камлёў,
Іх кідала на лапаткі,
Як нявопытных барцоў.
І ляжалі дрэвы без дыхання,—
Буралом ляжаў, скажу, дакладней,
Ну а буралом не тое дрэва,
Што вяршыняй цягнецца да неба,
Ці трымае гняздо надзейна,
Ці звініць струной чарадзейнай.
Буралом, адзначаны кляймом,
Таксама знойдзе сваё прымяненне:
Магчыма, пойдзе на дом
Ці стане шалёўкамі па прызначэнню.
Але, вядома, зусім не ў гэтым справа,
Куды пойдзе тое ці іншае дрэва,
А справа ў тым, што бура — рэдкая з'ява,
А так ламае дровы!
Бура наляцела і мінула,
А дрэвы на зямлі ляжаць.
...Няўжо
Не маглі
У такую
Цяжкую мінуту
Іх астатнія дрэвы падтрымаць,
Якія цвёрда стаяць?



Я люблю, калі цішыню парушае
На вясеннім ворыве плуг,
Я люблю, калі цішыню парушае
Каса, з якой ранкам
Касец выходзіць на луг,
Я люблю, калі цішыню парушае
У калысцы, прачнуўшыся ўночы, дзіця.
Без такіх парушэнняў цішыні
Я не ўяўляю
Жыцця.



Хоць сонца з воблакаў прагляне,
на небе меней сінявы:
з тугой шчымлівай
развітанне
зноў пратрубілі журавы
над лугам скошаным, балотам,
мясцінах, сэрцу дарагіх.

У жураvoў свае турботы,
дарога дальняя у іх.
За кругам круг у небе робяць,
нялёгка край свой пакідаць,
ды час прыспешвае, таропіць
хутчэй у вырай адлятаць.
Хоць восень барваю палае,
але азмрочаныя дні:
відаць,
і птушкам не хапае,
як людзям,
добрай цеплыні.



Такая дыялектыка прыроды:
заўсёдны рух і толькі вечны рух.
Праклюнуліся, узышлі усходы,
глядзяць на свет — на сонца і на луг,
дзе закружылі працаўніцы-пчолы,
дзе ўсё буяе, пеніцца, расце,
пасля пад каляровасцю вясёлак
для ўсіх нас незаўважна адцвіце.

Трымціць зямною музыкай паветра.
Табе, і мне, і многім з нас няўцям:
надыдзе час — не ўбачу ранак светлы,
я свет пакіну, толькі ўсё аддам

нашчадкам без ніякіх запаветаў
багацце тое, што капіў штодня:
аддам я сонца (быў я ім сагрэты),
нябёсы, дзе зіхцела і мая,

пакуль я жыў, цудоўнейшая зорка,
што у жыцці свяціла мне ўначы.
І ты ў сумоце стоячы на ўзгорку,
мяне, прашу, да свету далучы.

Я жыў і быў на іншых непадобны.
Я зведаў спёку, замець завірух.
Такая дыялектыка прыроды:
Заўсёдны, без спачыну, толькі рух.

## АКТАВЫ РОЗДУМУ

### I

Я быў патрэбен некаму на міг,
а некаму надоўга быў патрэбен.
Мяне шукалі, і шукаў я іх,
як праўду у надзённым нашым хлебе.
І гэта разумею я, як сейбіт,
што бачыць хлеб у каласах тугіх.
Знаходзілі мяне — і я знаходзіў,
падводзілі мяне — і я падводзіў.

### II

На схіле лета восені чакаў,
калі грыбамі бор запахне спелы.
Хаця у ім і замаўкалі спевы
птушыныя, мой бор усё ж спяваў.
Тады увагі я не надаваў:
без песень птушак бор быў парадзелы.
Я пабяднеў без дарагіх сяброў,
хоць і багата у бары грыбоў.

### III

Імёны дарагія гарадоў
і вёсак, дзе бываць мне давялося,
з вясны у лета перайшлі і ў восень,—
Як хочацца у іх вярнуцца зноў
і нечакана з тымі зноў сустрэцца,
чые імёны мне запалі ў сэрца.
Якімі маладымі мы былі!
Хіба так рана краскі адцвілі?

## IV

Я вас усіх трымаю у сакрэце,
каханыя, любімыя мае:
без вас жыцця мне не ўявіць на свеце,
без вас мне нават сонца нестае,
хаця яно яшчэ праменна свеціць,
ды халадком асеннім аддае —
атаву шэрань першая кранае,
дзе вы цяпер і хто мяне згадае?

## V

Гэта толькі сталасць, а не старасць.
Гэта толькі стому я адчуў
І яе пазбавіцца хачу,
хоць яна і прагне уладарыць.
І таму гады я не лічу —
колькі накапована пражыць мне.
Я на рунь кусцістую гляджу
і сцяжынкі бачу ў спелым жыце.



*Памяці Варлена Бечыка*

Не загадаеш па-новаму
Сабе
ўсё спачатку рабіць.
Колькі гадоў наканавана
Лёсам — столькі пражыць.

Вось і гляджу на пражытыя
Вёсны і леты свае:
За плугам хадзіў, сеяў жыта я,
Быў на касьбе і жніве.

Спраўляў я дакоскі, дажынкі,
Як і вяскоўцы ўсе.
І вось да гадоў дажыўся,
Калі лістапад трасе

Яблыні ў садзе спелым,
Зрывае лісты з бяроз.
Становіцца зразумелым:
Не перайначыць лёс:

Колькі табе наканавана,
Столькі і трэба пражыць,
Не загадаеш па-новаму
Сабе ўсё спачатку рабіць.

## АТАВА

Духмяны ліпень склаў лугі ў стагі.
І зноў касьба пачнецца неўзабаве.
Якім ён будзе, той укос другі?
Што сніцца ёй, малодзенькай атаве?
Яна расце — як лёгка ёй расці!
Ніводнай краскі не цвіце мядовай.
І пчолам тут узятку не знайсці,—
Увосень мёд збіраюць верасовы.
Я аб укосе думаю другім,
Касу кляпаю тоненька, як волас.
Атава ж і не ведае аб тым,
Што да яе трава стаяла ў пояс.

## ПТУШАНЯ

Калі лятае ў адзіноце,
Дык птушка бачна па палёце.
А тут малое птушаня
Спрабуе крылы. Вышыня
Зусім палохае. І я,
Заўважыўшы палёт нясмелы,
Яшчэ нялоўкі і няўмелы,
Яго вітаў:
— Смялей трымай,
Не бойся, неба разразай!
Само ты ў неба паляцела!
Не бойся падаць на зямлю:
Я тут стаю. Цябе злаўлю!
Ах ты, малое птушаня,
Лятаць вучыся лепш, чым я.



Паміраюць не ў гнёздах птушкі,
Прыляцеўшыя з далёкага выраю,
Праспяваўшы самыя шчырыя
песні.
Паміраюць не ў гнёздах птушкі,
Тых самых звычайных гнёздах,
Якія вясной зрабілі
І вывелі дзетак.
Паміраюць не ў гнёздах птушкі
І не смерцю звычайнай, заўчаснай,
Якая прыходзіць часта
Так нечакана.
Паміраюць не ў гнёздах птушкі
У ціхай адзіноце, сумоце,—
Паміраюць птушкі ў палёце,
Калі разарвецца сэрца.
І я, чалавек, як птушка,
Хачу вось так памерці:
Калі разарвецца сэрца,
Дык толькі ў палёце.

* * *

У неба глянь — якая гэта веліч,
неразгаданы таямніц прастор,
і маладзік над галавой, і безліч
далёкіх і недасягальных зор.

Адны згасаюць, падаюць, знікаюць,
уходзяць адзінока ў небыццё.
Не ведаю я толькі: з іх якая
мая са мною пражыве жыццё.

* * *

Яно адклікаецца чалавечым голасам у лесе,
крыкам савы і выццём ваўка ўначы,
смехам тваім і птушынай песняй,
і хаця яно нідзе і ніколі не маўчыць,
але ўся бяда яго заключаецца ў тым,
што яно свайго ўласнага голасу не мае зусім —
і таму
вельмі лёгка ў жыцці быць рэхам такім.

## ЗІМА БЕЗ СНЕГУ

Зіма, а снегу няма.
Якая без снегу зіма?
У месяцы, самыя зімнія,
зелянеюць азімыя,
у студзені — не студзяцца,
у дрэвах сокі будзяцца.
Будзяцца не калі-небудзь,
а ў месяцы самым лютым.
Якая зіма без снегу?
Такую зіму
мы
не любім.



Не крыўдую, хто прыпомніць
Дзе, калі і што сказаў.
Гэтым часта і накорміць,
Хоць ад той яды не стаў
Ні галодным і ні сытым,
А застаўся тым, кім ёсць.
Рады, што я не забыты,
Што мяне успомніў хтось.

* * *

І адкуль гэта голас паклікаў мяне?
Азірнуўся — нікога няма нідзе.
Над жытам, пад сонцам, жаўрук звінеў,
і сонца купалася ў сажалцы, дзе
мыла бялізну, пляскала пранікам маладзіца.
Дзе гэты голас? Няўжо ён мог заблудзіцца
ў лузе, дуброве ці ў жыце?
Куды мне падацца, дзе яго адшукаць?
О, як цяжка знаходзіць! О, як лёгка губляць!

* * *

Пакуль я на белым свеце жыву,
я ў неба ўзнімаюся крылатым ветразем,
у паднябессі звіню жаўруковаю песняй,
шумлю вечназялёным дрэвам жыцця,
у сухмень падаю на зямлю шчодрым ліўнем,
як жыта, наліваюся спелым коласам,—
і таму ў людзей на стале
ёсць заўсёды хлеб надзённы.





* * *

Чалавек без малой радзімы
Хоць глядзіць, ды нічога не бачыць,
Ён жыве на зямлі пустацветам
І нічога на свеце не значыць.

А малая радзіма — гэта
Хата з нізкім бацькоўскім парогам,
Сцежка вузкая, што выводзіць
У жыццёвы прасцяг, на дарогу,

Неба з громам і навальніцай
То захмарнае, то з сінявою,
Уначы з віташком ці поўняй,
А днём з сонцам над галавою;

Пах духмяны жывіцы-смолкі,
Гул пчаліны на красках мядовых,
Крык грачыны і клін жураўліны,
Кукаванне зязюль у дубровах;

Жабаў кваканне на балоце,
Гняздо ластавак пад застрэшку,
Калыханка любімай маці
І дзіцяці шчаслівая ўсмешка.

У зямлю, як купчастае дрэва,
Урастаем карэннем глыбока,—
Без радзімы малой не быў бы
Чалавек на зямлі высокім.

І пакуль буду жыць на свеце,
Не пакіну я думкі адзінай:
Без радзімы малой на свеце
Не ўяўляю
Вялікай Радзімы.

4 Зак. 1522



Дарога так расквашана, нібыта
Людзьмі і богам вёсачка забыта,
Дзе мая маці добрая жыве,
Дзе куры пад акном і ля парога
Па-свойму клічуць гаспадыню строга —
Так позна, а сняданку не дае.

Дарога так расквашана,— дабрацца
Пры ўсім жаданні немагчыма, братцы,
Да вёскі мне. А выйсце — дзе яно?
Няўжо той трактар, што грукоча дзесьці,
Мяне дарогай гэтай будзе везці
У вёску, дзе не быў я так даўно?

## ПЕРАД ПАРОГАМ МАТУЛІНАЙ ХАТЫ

Вада —
аж зубы заходзяцца —
прама з калодзежа.
Чаго ты, Мішка, стаіш, як заварожаны?
Бяры кварту! Лі мне на рукі, палівай!
Стому змывай!
Гэта ж здорава такой вадою мыцца,
асабліва пасля дарогі!
Усё роўна — як на свет нанова нарадзіцца
і стаць на ногі.
Памыўся — як лёгка крочыцца
і мне і кожнаму,
што там пранесці бульбы два кошыкі —
мне на плечы гару ўзваліць можна,
і я яе, не згінаючыся, буду несці
і пакладу ў назначаным месцы.
Давай, Мішка, лі на рукі ваду, палівай!
Што? Пырскаў боязна?
Эх, дзівак! Ты з вядра мяне абдай,
Як у лазні, да пояса.
Вось так. Малайчынка! Хопіць!
Ты мне здорава дапамог.
Толькі чыстымі нагамі, хлопец,
трэба ступаць на матулін парог.

* * *

Агародчык пахне кменам,
І гарбуз, нібы цыркач,
Працягнуў канат зялёны
З градкі на высокі плот
І няспешліва па ім
Ходзіць.
— Ну глядзі, глядзі, не скінься,
Ты ступай, брат, асцярожна,
Бо інакшай адарвешся
І на дол яшчэ ўпадзеш,—
Гарбузу сланечнік раіць
Вельмі шчыра, па-сяброўску,
Як-ніяк на адной градцы
Выраслі тут яны.
Толькі сцежкі разышліся
Іх у розныя бакі:
Адзін цягнецца да сонца,
А другі — пад плот палез:
Кожнаму — свае дарогі,
Кожнаму — зямное неба,
А зямля для іх — адна.
Для мяне яна таксама
Дарагая, як маленства
Казка, што вачыма ўбачыў
І пачуў упершыню,
Незабыўная ніколі
У маім жыцці яна.

* * *

Хлопчык малы — суседа сынок —
Сеў на частаколіну — доўгі кіёк.
«Но-о! — крыкнуў бацьку.— Я — на кані,
А ты паспрабуй мяне дагані».
І па вуліцы паскакаў стрымгалоў,
Трымаючы канец палкі, як каня за грыву.
І я за ім следам памчацца гатоў,
Ды не магу.
А на душы стала да болю шчымліва:
Не магу вярнуцца ў маленства я —
Даўно няма ў табуне майго
З рыжа-вогненнай грывай каня.

* * *

Незаасфальтаваная дарога.
Краскі пазавялі на лугах.
Клубы пылу — не відно нічога,
Бойкі шлях.

Ліпень. Невыносная спякота.
А зямля дрыжэла і гула.
Ехалі падводы, і пяхота
На усход ішла.

Цёткі з хат выходзілі: «Сыночкі!
Вы куды спяшаеце? Куды?
Дзе нам вашы адшукаць слядочкі?
Уратуйце ад бяды!»

Выціралі слёзы. Галасілі.
На руках трымалі немаўлят.
А байцы са смуткам гаварылі:
«Вернемся назад!»

Я глядзеў, хлапчук белагаловы,
На знясіленых байцоў,
Стомленых, запыленых, суровых,
На пілотках — кроў.

Многія, хістаючыся, ледзьве
Адступалі на сваіх дваіх.
Тату я хацеў хутчэй угледзець
Сярод іх.

Ды не ўгледзеў тату — плакаў горка:
Як жа не заўважыў ён мяне
На шляху, дзе зняў з пілоткі зорку
Невядомы дзядзька і даў мне?

## АКУПАЦЫЯ

Такі быў суровы мароз —
трэскаліся ў хатах сцены,
маці выцягнула два вядры вады,
а прынесла лёд сіні
у хату.
Нам холадна было на чаранах
такой заўсёды ласкавай печы,
печаная бульба была салодкай,
хоць замест цукру
запівай яе чаем.
Дужа было зябка агню ў печы
і яблыням, што павымярзалі,
не кукарэкаў пад печчу наш певень,
якога мы схавалі ад немцаў.

Маці яму галаву не адсекла
толькі таму, што лічыла:
прыйдуць нас выганяць у бежанцы,
а яна выкупіцца
гарластым спеваком.

Днём у хаце панавала цемень —
шыбы абрасталі снегам, нібы
вокны занавесілі ад вуліцы матамі.
Мы, дзеці,
па чарзе грэлі рукі
(не пабаяліся іх апячы)
няяркім полымем
чаднай смалістай лучыны.

## БАЛАДА ПРА БУСЛІХУ

*Івану Чыгрынаву*

Бусел, пакінуўшы ранкам гняздоўе,
Бусліху і галапузых буслянят,
Паляцеў да балот Панізоўя
І доўга не вяртаўся назад.

Сонца над борам высока ўстала,
Пазалаціла вяршыні дубоў векавых,
А бусліха сядзела і не клекатала,
Не жадала будзіць малых.

Ведала добра маці-бусліха:
У дзяцей — самы салодкі сон.
І яна сядзела ў трывозе ціха.
Разважала: «Чаму не вяртаецца ён?»

Душныя ночы. Росы не выпадаюць.
Невыносная спёка стаіць каторы ўжо дзень.
Птушкі бяду раней за людзей прадчуваюць,
Хто ж ад бусліхі бяду адвядзе?

Ноччу неба грымела і гарэла.
Зямля хадзіла ходарам-хадуном.
Перапёлка тамілася-млела
У жытах за Дняпром:

«Людзі добрыя, дапамажыце,
Не было ў роце нават макавай расінкі».
Перапёлка плакала ў жыце,
На дварах жанчыны галасілі.

Што дзеецца на свеце, не разумела,
Гледзячы на сваіх немаўлят, бусліха,
І адкуль — разгадаць хацела —
На галаву звалілася ліха.

І вось — каторую гадзіну — у задуменні
Сядзіць і ўзіраецца ўдалеч пільна:
Людзі бягуць у лес загуменнем
І на дарогах пыльна.

Вялікае воблака шэрага пылу
(Адкуль яно раптам такое?)
Ўзнялося высока да небасхілу
І сонца зацьміла сабою.

Не даляцеўшы да роднага гняздоўя,
Бялюткім воблакам на дол зваліўся бусел,
Толькі крыкнуць паспеў на сваёй мове
Буслісе
Адзінае слова:
«Ра-ту-й-ся!»

Бусел на дол зваліўся,
Падстрэлены чаргой аўтаматнай,
А як ўратавацца буслісе,
Калі ў гняздзе галапузыя бусляняты?

І яна (бачылі вяскоўцы многія)
Схапіла бусляня малое ў дзюбу
І панесла на стары могільнік
За вёску, далей ад згубы.

А калі назад вярнулася зноўку,
Ледзьве сама на дол не ўпала:
Знесла снарадам з бярозы буслоўку
І сама бяроза без кроны стаяла.

Ад бяды хто як мог ратаваўся,
Уцякаў, куды вочы глядзелі.
Каля бярозы бусел ляжаць заставаўся,
І побач ляжала другое
маленькае мёртвае цела.

Бусліха пераляцела пекла-полымя
Нізка-нізка, над самай зямлёю,
І, схапіўшы дзюбай за шыйку голую
Бусляня малое,
Вылецела адтуль ледзьве жывая
(Цудам, няйначай, ўцалела).

Прыляцела на могільнік.
Дыханнем сваім сагравае
Халоднае цела.
А яно ляжыць нерухома, як камень,
Маўкліва і ціха.
І тады з вялікага адчаю
Запрычытала бусліха:
«Маё ты дзіцятка роднае,

Маё ты малютка любае,
Навошта ты свет пакінула,
Ці ж я цябе не галубіла?
О доля мая няшчасная,
О гора маё палыннае!
Не бачу я свету белага,
Куды мне ляцець, куды кінуцца?»

Плачам гору не дапаможаш,
Калі ходзіць па свеце ліха.
Трэба жыць. І дзіця жывое,
Чым магла, пакарміла бусліха.

Хай яно набіраецца сілы
І хутчэй выпрамляе крылы.
Трэба жыць. А пакуль ліхалецце
Перажыць трэба абавязкова —
Сонца зноўку праз хмары праб'ецца,
Свет аздобіць красою вясновай.

Маладая бяроза шумела
Над маленькаю свежай магілай,
На дарогу бусліха глядзела,
А дарога пыліла, пыліла.

Пераспелае лета. Змяркание.
Крык савы. Птушкі піск. Адзінота.
За Дняпром у жыце ад рання
Чуўся плач перапёлкі гаротнай.

* * *

Пасляваенныя лясы
Дзяцей вайны перараслі.

Ваўкі не водзяцца. Ласі
Прапіску тут сабе знайшлі.

Маёй ты стрэльбы не прасі —
У лесе мірныя ласі.

## МЛЫН КАЛЯ ВЁСКІ КІШЧЫЦЫ

Млын, што каля вёскі Кішчыцы,
адмахаўшы крыламі свой век,
на спачын пайшоў, навек пакінуўшы
Памяць, нібы добры чалавек.

Ветрамі абветраны, прасушаны
спёкаю, абмерзлы у зіму,
ён не ведаў, колькі год насуджана
каля Басі прастаяць яму.

Мы — вайны галота і нішчымніца —
у пасляваенныя гады
бачылі, як млын ля вёскі Кішчыцы
крыллем не махаў нам, як заўжды.

Ён стаяў пануры, долу згорблены,
адзінокі, бы з пустою торбачкай
той жабрак, што вёску абышоў
і ні з чым вяртаецца дамоў.

Выцвілымі, сумнымі вачыма,
апусціўшы свае крылы-рукі,
углядаўся млын у далячыні —
на шляхах падвод нябачна гулкіх.

Жнівень адышоў. Было і збожжа.
Толькі ён змалоць яго не зможа:
кожнае зярнятка на уліку
і стаўчы у ступе яго лепей,
чым змалоць на млыне тым вялікім,
будзе смаку больш у чорным хлебе.

Так лічылі нашы маці-ўдовы.
Ты у тым не вінаваты, млын,

што заўчасна ты пайшоў на дровы,
ці, дакладней, на спачын.

Нашым дзецям аніяк не верыцца,
як мы пухлі з голаду, раслі.
Галадуха болей к нам не вернецца,
мы й за іх яе перажылі.

Толькі памяць, вечная, жывучая,
нібы рана свежая, балючая,
не дае такое мне забыць,
рэчка Бася каля вёскі Кішчыцы,
дай умыцца чыстаю вадзіцаю,
там, дзе млын стаяў,
хачу пабыць.



У салоўкі-салаўя
ёсць адна запаветная песня свая
на самай высокай ноце
перад тым, як сканае
у адзіноце.

Так гаварыла мне маці.
І яна, удава, салаўіха вясновая,
не дачакаўшыся бацькі з вайны,
пойдзе са мной у лес
па траву ці па дровы,
перш паплачацца у ахвоту,
як зязюля гаротная,
а пасля пачынае спяваць,
нібы яна
зусім вясёлая і бестурботная.

Першая песня — была вясенняя,
другая — вясельная,
трэцяя — пра Міхася,
якога не дачакалася.

У першай песні — дзяўчына
цвіла ў лузе, нібы каліна,
ля крыніцы стаяла,
зару сустракала.

У другой песні любага
пяшчотна галубіла,
сцяліла пасцельку свежую,
клала на ручку белую.

Трэцяя песня — як сляза гаручая,
як агонь пякучая,

да болю шчымлівая
пра долю горкую, нешчаслівую.

Я клічу цябе, матуля:
праспявай мне сёння
хоць адну са сваіх песень.



Хмельны піць бярозавік
Клічу я ў Бярозаўку.
Як Бярозаўку знайсці?
Ды надзвычай проста:
Толькі выйдзі з цягніка
І не мерай вёрсты.
У белых бярозах
Стрэхі бялеюць,
Белыя ветры
Заўсёды сагрэюць.
Белыя ветры
Ад белых бяроз —
Што? Не бывае
Такое ўсур'ёз?
Выдумка гэта?
Памылка, магчыма?
Бярозавае лета —
Усмешка прад вачыма!
Белая ўсмешка
Белых бяроз.
А я тут нарадзіўся,
А я тут рос.
Хлапчуком вясковым —
Пацвердзяць суседзі —
На кані ружовым
З сябрамі ездзіў.
Адразу
Пасля марозаў
Піў удосталь
Хмельны бярозавік.

## ВЕЧАРЭЕ

На схіле — сонца. Вечарэе.
Ідзе на адпачынак дзень.
Кладзецца на зямлю, даўжэе
цень.
Даўжэе цень высокіх дрэў,
і замаўкае птушак спеў.
Мой цень — вялізны сілуэт —
за мной пляцецца моўчкі ўслед,
не адступае ні на крок.
Яшчэ не свеціць ветапок,
не загарэліся і зоркі,
туман, як з коміна дымок,
памалу цэдзіцца на ўзгоркі.
Над вухам камары звіняць.
Рвуць жабы на балоце глоткі.
Крыху прытомленай паходкай
ідзе мой дзень вечараваць.



Лета сплыло павуцінием
Бялюткім, як валакно.
Павяла на градках націнне,
Неба завалакло.

Пачаўшы ад самага ранку,
Занудлівы дождж імжыць.
І ўжо непрываблівым франтам
Сланечнік ў акно глядзіць,
Лісце яго абляцела,
І гэта не трын-трава:
Быў сонцам і — бач! — пачарнела
Ягоная галава.
Яе неўзабаве скруцяць
Хлопцы — чаго чакаць? —
І будуць насенне лузгаць,
Каханак сваіх частаваць.



Ах, восень! Ты — садоўніца:
Сад ад яблык ломіцца.

На дзядзьку крыўдую:
І чаму ён бавіць —
У пару такую
Падпоркі не ставіць?

Сад ад яблык ломіцца,
Толькі дзядзька позніцца:
Пахне яблыкамі сад —
Спелых зораў спелы пад!

Крочыць дзядзька згорблены
Ціха з-за задворку,
Хоць і позна зроблены,
Ды нясе падпоркі.

Ціхі дзень пагодны,
Дзядзька мой лагодны.

— Папрацуй, кажа, за двух,
Ну а я, дарэчы,
Апрану пайду кажух,
Нешта мерзнуць плечы...

## МАМА

Вокны вымыты чыста, у саклі прыбрана,
і на столі адразу зайчык сонечны ўзнік.
Стол заслала абрусам сваім саматканым
і паклала пірог на чысцюткі ручнік.

Уздыхнула тайком, падышла да парогу,
дома ў саклі адна, як у полі вярба.
Праганяе як можа матуля трывогу
і ніяк не прагоніць — не ў сілах бабá!

І не можа ніяк яе ў думках развеяць
і — адзінае — ў сэрцы глыбока схаваць.
Так, як маці, на свеце ніхто не умее
за дзяцей хвалявацца і перажываць.

Так, як маці, ніхто не умее на свеце
немаўлят сваіх песціць, калыханку спяваць,
так, як маці, ніхто не умее прывеціць
і ў дарогу праводзіць, з дарогі чакаць.

Так, як маці, ніхто цябе не разумее,
яна словам суцешыць заўсёды ў бядзе.
Ад матуліных слоў цэлы свет харашэе,
мне ніхто не заменіць, матуля, цябе...

На руках ты галубіш маленькіх унукаў,
не пускаеш адных іх ступіць за парог
і, як іх, непаседаў, мяне б ты на рукі
узяла б і сказала б:
«Сынок-галубок,
ну хадзі, патрымаю цябе, калі ласка,
па свяцёлцы гасціннай цябе панашу,
а калі ты заплачаш, цудоўную казку
пра вясёлага Бая табе раскажу».

Калі б толькі магла...
Я б [redacted] вялікай ахвотай
тваю шыю рукамі сваімі абвіў,
да грудзей прытуліўся б шчакою, а потым,
затаіўшы дыханне, тваё кожнае слова лавіў.

Разумею, што нельга ў маленства вярнуцца,
з першых крокаў жыццё пачынаць сваё зноў...
Не растраціў я ў сэрцы гарачых пачуццяў,
праз жыццё я праношу святую любоў.

Мама, маці... З цябе пачынаецца мова,
і жыццё пачынаецца толькі з цябе:
у калысцы дзіця «мама» — першае слова —
вымаўляе, цябе несвядома заве.

І на кліч яго першы, пакуль што нясмелы,
ўсё на свеце забыўшы, спяшаешся ты,
а яно, нібы ластаўка, ў свет паляцела
праз бары, сенажаці, азёры, хрыбты.

Прамяністае, светлае слова, як ранак,
мяне вывела ў свет
на шырокі абсяг...
Быў у Грузіі я — за ласкавае «нана»
я свой рог узнімаў за сталом у гасцях.

Вокны вымыла чыста, у саклі прыбрала,
а хвіліны чакання — марудлівы год:
сын прыедзе — сарока настракатала,
будуць госці — ўмываецца з раніцы кот.

Верыць кожная маці ў такія прыметы,
калі сына чакае з далёкіх дарог,
будзе, будзе бяседа у саклі паэта —
хутка ён завітае на родны парог.

О хвіліны сустрэчы і ў хаце, і ў саклі,
як падобны яны і ў стэпах, і ў гарах!
Пацалункі, абдымкі, пытанне: «Ну як ты?» —
і слязінкі ў матуліных добрых вачах.

Сябра маці — аварка з тугою касою —
колькі ў сэрцы яе цеплыні і дабра!
«Мама!» — самае ў свеце ты слова святое
і гучыш па-аварску пяшчотна «бабá».

Пахадзіў я, паездзіў па свеце нямала
З гэтым імем у сэрцы, заўсёды святым,
І на мове якой бы яно ні гучала,
Зразумела і блізка яно нам усім.

## ДЗЕСЯТЫ ВЫПУСК

Пасляваенны, юбілейны
дзесяты выпуск. Ён — музейны —
са стэнда на мяне глядзіць:
хлапчук, якога звалі Жэня
(прапахлі тытунём кішэні),
за партай першаю сядзіць.

Ён назірае за дзяўчынкай,
той фанабэрыстаю Зінкай,
хоць не выдатніца яна,
затое ёсць у Зінкі бацька,
і Зінка любіць прыбірацца
і ходзіць гордаю адна.

А мы тайком яе любілі,
адзін перад другім лаўчылі,
пачуцці тоячы свае.
Мы ёй прыдумвалі мянушкі
і звалі болькамі вяснушкі,
што упрыгожвалі яе.

А Зінка ўвагі не звяртала:
бязбацькавічы — толку мала,
пустамалоты, пастухі,
маўляў, любві не разумеюць,
рабіць нічога не умеюць,
а мецяць, бач, у жаніхі.

З мяне цяпер смяяцца могуць,
што разумеў па-свойму моду —
хадзіў без латак на штанах.
Куды за Зінкай мне угнацца
або за тымі, ў каго бацька
жыў прыпяваючы, ў чынах.

Сядзеў у цёпленькай канторы:
ці быў сельпоўскім кручкатворам,
ці узначальваў сельсавет,
ці нарыхтоўшчыкам-пранырам,
ці ў нашай вёсцы брыгадзірам —
ён злодзей быў і прайдзісвет.

Куды мне з дзецьмі іх раўняцца!
Іх дзеці ўмелі задавацца,
а я чым задавацца мог?
Сын Мішучыхі, сын салдаткі,
з прамёрзлай бульбы еў аладкі
і школьны не кідаў парог.

І ўсё ж любіў я моцна Зінку...
Я побач з ёй стаю на здымку
тым юбілейным, выпускным.
Яна і твар нат адвярнула...

І вось нямала год мінула,
мы сталі іншымі зусім.
І вось — праз колькі год! — сустрэча,
але не ўсе на гэты вечар
прыйшлі сябры-выпускнікі.
Я не сустрэў красуню-Зінку
і ёй падобных, што на здымку
стаялі горда, як бацькі.



Не запытаўшы ў мяне згоды,
гады — вясною крыгаходы —
сплылі, нібыта параходы,
сплылі — не ведаю — куды.
Стаю на беразе Дняпра я.
Сышла паводка веснавая.
Раку паром пераплывае
адсюль — туды, адтуль — сюды.
У далеч светлую гляджу я
і на гады свае крыўдую —
на беразе якім яны?
У думках позіркам акінуў,
дзе я згубіў іх, дзе пакінуў?
І толькі ў сэрцы успаміны
далёкія, нібыта сны.



Як рана пачало цямнець!
Звініць агністых лісцяў медзь
На клёнах і бярозах —
З лета ў восень позва.
Нават у слоту і ў стынь
Яны захоўваюць цяплынь,
А на душы трывожна:
Як рана пачало цямнець!
Красе агністай не ўцалець,
Прыйшоў час лісцям адгарэць,
Зямлю не здолеюць сагрэць
Парою лістападнай —
Я ведаю дакладна.
І ты павінен зразумець,
Як рана пачало цямнець.
Хутка імклівая пара
Былога лета праляцела.
І дрыжыкі бягуць па целе.
Калючы вецер. І зара
Так неўпрыкмет пахаладзела.
І я стаю пад Шляхам Млечным,
Лёг на зямлю і плечы вечар —
Як рана пачало цямнець!



А многа так яшчэ не зроблена,
Што як жадаецца зрабіць.
А недзе музыка жалобная
Зусім няпрошана гучыць

І сэрца так кране хвілінаю,
Ажно накоціцца сляза,
Што ўміг уявіце адзінае:
Жыццё зусім не драбяза,

Заўжды напоўнена турботамі
Аж да краёў — не злічыш ўсіх,
Як вуллі, што з густымі сотамі,
Ды ёсць пустыя сярод іх.

Дык дзе ж вы, соты меданосныя?
Дзе ж ты, салодзенькі мядок?
Адкрасавалі краскі вёснамі,
І вось на сэрцы халадок.

* * *

Пад гэтым небам вечнага няма
ва ўсёй нас акружаючай прыродзе:
вясной заўжды змяняецца зіма,
заўсёды лета ў восень пераходзіць.

І невядома мне яшчэ пакуль,
чаму згасаюць, падаючы, зоркі
і чалавек пайшоў туды, адкуль
не вернецца птушыным ранкам звонкім.

* * *

І не грыбны. І не сунічны.
І не арэхавы сезон.
А лес заўжды ў сваім абліччы —
здалёку кожнаму відзён.

Я не згубіў у ім нічога,
а ўсё ж іду, шукаю штось.
Трашчыць галлё. Вавёрка строга
пытаецца: «А што за госць?»

Не дачакаўшыся адказу,
за мною сочыць ўсё пільней.
А што знайду, яна адразу
убачыць: з вышыні — відней.

* * *

Калі густалістыя кроны высокіх дрэў
нахіляюцца да зямлі,
мы гаворым: «Які моцны вецер!»
Калі загайдаюцца дрэў камлі,
беражыцеся, дрэвы,— бура!

* * *

О, гэты снег! Ён — чысты, як нядзеля,
і ясны, нібы думкі ў галаве.
Таму ў сябе і не пытаю: «Дзе я
ляжу — ці на снапах, ці на траве?»
Маўклівая палаты беласнежнасць
і цішыня, як гурба пад акном.
У небе, на зямлі і ў сэрцы светласць,
яе вялікасць вабіць хараством.

І хоць яна, святочнасць, ледзяная
і мёртвая. На тое і зіма
зямлю, як коўдрай, снегам накрывае
і рунь, як коўдрай цёплай, саграваe
і ведае: не вечная сама.

Як хворае і стомленае сэрца,
што не здаецца смерці ў грудзях,
жыццё яе таксама абарвецца,
сплыве ў лагчыны — у апошні шлях
імкліва гаманкімі ручаямі,
якія абудзіліся ад сну
і ўваскрэслі, стрэцілі вясну...
І я ў жыцці надзеі не кідаю.

* * *

Доўгія цені дрэў,
Як частакол густы.
Хата. За хатай — хлеў.
Лажок ускапалі краты.

Рагуля з папасу прыйшла —
Запах сырадоем двор.
Спаць куранят павяла
Квактуха. Ды толькі тхор

Стаіўся за клеткаю дроў
І, мусіць, думае там:
Ці будзе ўдача зноў,
Ці трапіць у пастку сам?

## ЦІХАЯ КАЛЫХАНКА

Спі, мой сынок!
На небе спявае ціхую калыханку
Маладзічок.
Цішыня кругом:
Не паверне сланечнік
Жоўтай галоўкі-сонца
Пад акном.
На лістку-пасцельцы
Спіць маленькая дзяўчынка-расінка,
Не зварухнецца.
На сучок
Павесіў сваю скрыпачку
Цвыркунок.
Бялюткая хмарка
Заплюшчыла вочы зорцы
Да ранку.
Баю-бай!
Даспявала і я ціхую калыханку.





## ДЫЯЛОГ ЛЯ АБЕЛІСКА

— Калі ты подзвіг свой, салдат, рабіў,
баяўся смерці ці ішоў адважна?
— Павер, жыццё бясконца я любіў,
а за яго і паміраць не страшна.

* * *

Запытала сэрца:
                    — Што ты хочаш,
жывучы, харошае зрабіць?
— Мне б прачнуцца неяк раз аднойчы
і, як пеўню, вёску разбудзіць.

* * *

Куды іду, пытаць не трэба,
ды я не ведаю і сам,
як зорка, што упала з неба,
нічога не сказаўшы нам.

## ПАМЯЦІ МІРЗО ГЕЛАВАНІ

Паэта слова — вострае лязо.
Паэта слова — баявая зброя,
Якую з рук не выпусціў Мірзо,
Упаўшы з ёй на грозным полі бою.

* * *

Паўзучае слова атруту затоіць
і ўкусіць знянацку, нібыта змяя.
Ласкавае слова ўсе раны загоіць,
і заіскрыцца ў вясёлках зямля.

* * *

З адной ступенькі і праз дзве ступенькі
я бегаў, нібы Бай той па сцяне.
О, як цяпер таму зайздрошчу Жэньку.
Ён быў падобны дужа на мяне.

* * *

Пачакай, пабудзь са мною трошкі,
дужа век кароткі у жыцці.
Вер: маладзіковаю дарожкай
мне яшчэ так хочаццаісці.

* * *

Яшчэ не будзяць трактары вясну,
хаця яна і блізка, за парогам,
а жураўлі у небе цаліну
ўзнімаюць вострым клінам, як нарогам.

## АДЛІГА

Быў мароз, а раніцай — адліга.
Ды не зразумею я адно:
пасля спрэчкі нашай — што за ліха? —
сонца заглянула у акно!

* * *

Як доўга не спадае лісце з дуба!
І ўсё ж яго зрывае лістапад.
Мне не вярнуць асеннюю загубу,
хоць і вясна вяртаецца назад.

* * *

Не тапчыце траву! Пакланіцца патрэбна траве!
Колькі сілы ёй трэба, стаптанай,
каб зноўку узняцца
і пад сонцам, што ў чыстай гарыць сіняве,
зноў зялёнай жывою травой называцца?!

* * *

Сасну абпаліла маланка. Ды толькі сасна
стаіць і не скардзіцца нікому на боль невыносны:
да сонца цягнецца абпаленай кронай яна,
каб сустракаць разам з сёстрамі новыя вёсны.



Калі ў дарозе я стамлюся,
я да зямлі у час такі
сваёй шчакою прытулюся,
як да матулінай шчакі.

* * *

Быць ці не быць? — адвечнае пытанне.
Які мне даць па сутнасці адказ,
калі дарогі раз'ядналі нас
і толькі засталося скрыжаванне?

## ЧАТЫРЫ ПАРЫ ГОДА

### Зіма

Год пачынаецца з белай зімы.
Мароз і адліга. Лыжня і снежкі.
У дзяцей — забава. Вясёлыя ўсмешкі.
У дарослых — халадок: старэем мы.

### Вясна

Аздобіла красою цэлы свет,
І зноўку я вяртаюся ў юнацтва:
Цвітуць дзяўчаты: шчокі — макаў цвет,
І як за кожнай хочацца угнацца!

### Лета

Хоць адбаўляй святла і цеплыні,
Але душы не абмялелі рэкі.
Узважваю руплівай працы дні.
Высокі поўдзень. Сталасць чалавека.

### Восень

Чырвонцы дорыць шчодраю рукой.
Зямля кастрамі зыркімі сагрэта.
Хоць называюць восень залатой,
Не адкупіць ёй згубленага лета.





## ПАРА КРАСАВАННЯ

Чэрвень — чырвань. І куды ні глянь,
Як на ўсходзе маладая рань,
Лета чырваніцца, пунсавее,
Хоць і кружыць цёплая завея.
Хараством такім налюбавацца
Не магу, хаця гады ляцяць:
Пачынае жыта красавацца,
Каб паўнюткі колас наліваць.
У пару такога красавання
Забываю я на сталы ўзрост:
Да сябе, у жыта, на спатканне
Зноў мяне вяртае маладосць.
На зямлі дзівосаў многа розных —
Я іду па чыстых свежых росах,
Сэрца — насцеж, салаўі — ў грудзях,
Бо яшчэ сваё не адспявалі,
Толькі я магу іх зразумець:
Песень назапасілі нямала,
Ды і трэба новыя прапець.
Бо заўсёды вечнае каханне,
Не ўяўляю без яго жыцця.
Чэрвень-чырвань. Жыта красаванне
І завея цёплая паўсцяж.



У малінавае лета,
У світанні чыстыя
Я іду
Аж за паўсвету
Сцежкаю расістаю.

Я іду да любай, мілай
Срэбразвонкай раніцай,
А мае ўсе небасхілы
Ад мяне ўдаляюцца.

Залацістыя дубровы
Звонкія, пявучыя
У красе шумяць вяснова
Над дняпроўскай кручаю.

А лугі — куды ні гляну —
Дыванамі сцелюцца,
Расплываюцца туманы,
і жыты мяцеляцца.

Перайду я воду бродам
Там, дзе кружаць чаіцы.
За сялом,
Далёкім борам,
Небасхіл канчаецца.



Пакуль ішоў я па жыцці з табою,
дарослы, а наіўны, як дзіця,
не разумеў: жыццё, як поле бою,
хвіліны шчасця і хвіліны болю —
два полюсы адвечныя жыцця.



Чубаты бор шуміць над галавой,—
Не трэба разумець яго шаптання.
Сказала:
— Да апошняга дыхання
Твая навекі, ты — навекі мой.
І пойдзем мы дарогаю адной,
Каб не было ніколі развітання.
Адно ў мяне вялікае жаданне:
Хачу квітнець, як яблынька вясной.

Не трэба мне у небе жураўля,
Калі сініца у руках мая,
І я яе, пяшчотную, трымаю.

Нас захмяліў чабору спелы пах,
І дрэвы загайдаліся ў вачах,
І — цёплы мох, і — цішыня нямая.

* * *

Прыйшла няпрошана. Як дзіва.
Сама сабою. Неўпрыкмет.
І мне адкрыла цэлы свет —
Прывабны, малады, шчаслівы.
І ўберагла мяне ад бед,
Нібы ад граду вецер ніву.
А як цябе мне зберагчы
Такую пекную, слабую?
Цябе, бяскрыўдную, цалую
Безабаронна уначы.

## УСПАМІН ПРА ЛЕТА 1965

Табе было ўсё гэта нова.
За вёскай — сажалка. Дуброва.
Матуля. Хата. Наша мова.
Дзяўчынка Каця Васілёва,
Якой гасцінец ты дала.
З пашы вярнулася карова.
Даёнку мама узяла
І выйшла. За сталом кляновым
Ты потым сырадой піла.

* * *

Гарачая сяброўская рука!..
Чаго маўчым? Давай у горы пойдзем,
Дзе цень лягла на плечы Машука,
Якога не састарылі стагоддзі.

Чаго стаім і не знаходзім слоў?
Чаму з табой маўклівыя, як горы?
Як у семнаццаць, сэрца б'ецца зноў,
Ды пра любоў уголас не гавораць.

І я гляджу, задумлівы, у твар,
А позірк твой гаворыць многа-многа.
Давай руку — і знойдзем мы дарогу,
Схаваную у цёмнай ночы хмар.

Ты ведаеш, куды яна вядзе,
Спавітая у цемрадзі туману,—
З табою я не заблуджу нідзе
І у цяжкой дарозе не прыстану.

Рука — ў руцэ. Адну цябе любіць!
З табою быць і ў радасці, і ў горы.
Сівы Машук, як мудры дзед, глядзіць,
Ты зразумей: хлусіць не ўмеюць горы.

* * *

Згадай яе — адыдзе боль шчымлівы
І лёгкі крок адчуеш у хадзьбе.
Жанчыне трэба дзякаваць за дзіва,
Якое аддала яна табе,
Калі цябе, як хваля, абдымала,
Гарачымі губамі цалавала,
Дыханнем саграваючы сваім.
І гэта — найцудоўнейшае шчасце —
Гарэць, хмялець ад чарадзейных страсцяў
І паміраць не страшна з ёй зусім.

* * *

Раптоўна, як удар ляза,
скацілася твая сляза.

Не на кароткі момант нейкі
маўкліва арасіла вейкі

і развярэдзіла душу.
Павер — ніколі не хлушу —

тваю гарачую слязу,
як сонца на траве расу,

я пацалункам асушу.
Дазволь мне, любая. Прашу.

* * *

Калі ты хварэла, мой сонечны зайчык,
і вера згасала у вернасць маю,
прыйшоў да цябе я, каб толькі убачыць,
і вылечыў словам адзіным
«люблю».



Сэрца — не камень, адыдзе.
Ён яшчэ вернецца, прыйдзе.
Пасадзіць дачку на калені,—
Будзе прасіць прабачэння.
Кажу табе шчырую праўду:
Даруеш яму за здраду,
Сэрца — не камень, адыдзе.

## ДЗЯЎЧО

Навылёт мне не спіцца ўсю ноч.
Ты — пытанне маё і адказ,
маладая, як песня, дзяўчо,
цалаваная толькі раз.

Хоць салодкія губы твае
не сказалі мне слова «люблю»,
пакуль ў свеце каханне жыве,
ты красой аздабляеш зямлю.

* * *

Я прыгадаў усе твае просьбы,
Ні адну з іх я выканаць не змог:
Не дастаў я табе з неба зорку,
Як яблык крамяны з яблыні,
Не ўзняў я цябе ў нябёсы,
Як жаўрук, узляцеўшы з баразны, сваю
песню;
Не змог я злавіць табе салаўя,
Каб зімой ты слухала яго трэлі;
А пярсцёнак, які я зрабіў з пятака,
Быў медным, а не залатым;
Я частаваў цябе арэхамі,
А ты баялася іх раскусіць —
берагла свае зубы...
Скажы, хто ж цяпер твой любы,
Якія просьбы ў цябе да яго?



Ах, што твае шаптали губы,
Цалуючы мяне ўначы!
Імя чужое. Мілы. Любы.
Мне так хацелася ўцячы

У цемень восеньскую ночы,
У лістабойную імжу.
Цалуй мяне ты колькі хочаш,
Я нават слова не скажу.

Я прытаіўся, нібы сонны,
Маўчу, нібыта анямеў.
Цябе пазнаў я толькі сёння
І толькі сёння зразумеў,

Што у любові два аблíччы:
Любоў, якую ты і ў сне,
Маё імя забыўшы, клічаш,
І здрада, што не трэба мне.

* * *

Не веру, што студзень на вуліцы сцюжыць,
Калі ты з марозу прыйшла, нібы ружа.
Ты не кажы, што, маўляў, гэта казка,
А паглядзі на сябе, калі ласка.
І не пытай у сябе ты самой:
Чаму расцвіла ты, як ружа, зімой.



Я столькі год
цябе не бачыў!
Я столькі год
табою жыў!
Сябе я траціў
даастачы,
губляў,
ды толькі не згубіў.

І мне здавалася:
ніколі
не дакрануцца
нас гады
і зноў пачую
ў роднай школе:
«Вунь з маладою
малады!»

І, як тады,
пачырванею,
зноў апраўдацца
не змагу:
хлусіць не ўмеў і не умею,
ды і ад жартаў
не збягу.

Так думаў я,
чакаўшы стрэчы
з табой
праз доўгія гады,
а вось сустрэў
і ў той жа вечар
адчуў,
што я не малады.

І ты зусім
не тою стала
праз столькі зім
і столькі лет.
Ды толькі памяць
захавала
далёкай маладосці
след.

* * *

Забыцца? Немагчыма!
Вадою не сплыло.
Яшчэ тваё сяло
Стаіць перад вачыма.

Туман густы ў лагчыне.
Расяная трава.
І — кругам галава.
Забыцца? Немагчыма?

— Не зябка? Малайчына!
Да сэрца прытуліў
І смагу уталіў —
Забыцца? Немагчыма!

З табою тут адны мы.
Якая цішыня!
І мала так да дня —
Забыцца? Немагчыма!

— Я пабягу, любімы,
Дадому. Мне пара.
Зірні: ўзышла зара.
Забыцца? Немагчыма!

## ПРАЗ ШМАТ ГАДОЎ

Ці ты хочаш, ці не хочаш,
а мінула шмат гадоў.
...Развярэдзіў сэрца ўночы
крык трывожны жураўоў.

Урачыстая, як свята,
ты згадалася мне зноў.
...Пахлі губы рутай-мятай.
Квецень майская садоў.

Шмат вады ўцякло у мора
паўнаводнаю вясной.
...Віслі, роіліся зоры,
нібы пчолы, над зямлёй.

Смех дзявочы. Салаўіны
звонкі пошчак за ракой.
...Ты цвіла, нібы каліна,
непаўторнаю красой.

Ты — і радасць і здзіўленне,
нібы поначы касцёр.
...Незабыўнае імгненне
і адно сэрцабіццё.

Твар — у твар. І вочы — ў вочы.
Гарачынь пяшчотных слоў.
...Растрывожыў сэрца ўночы
крык трывожны жураўоў.

* * *

О тебе я думаю...
*Расул Гамзатаў*

Калі я цябе не бачу,—
ты ў думках маіх, трывогах;
І што толькі я ні рабіў з імі,—
не змог іх выкінуць з галавы,
пазбавіцца ад іх праследвання.
Вясною я іх заараў плугам,
а яны
прараслі ў глебе
і зарунелі зялёнымі ўсходамі;
Я занёс іх на сухія лясы і закінуў,
а вярнуўшыся дамоў,
яны ўжо апярэдзілі мяне —
іх прынёс вецер;
Я панёс і ўтапіў іх у гнілым балоце,
а яны ўвосень на купінах
запунсавелі журавінамі,
нібы твае губы,
якія сваім пацалункам
не раз апякалі мяне.
Скажы,
колькі яшчэ гадоў
буду мучыцца я, як Сізіф?

## ДВОЕ

Якія
шчаслівыя
гэтыя
двое!
Ідуць на віду і смяюцца, як дзеці,
нібы знайшлі яны нешта такое,
што проста не ведаюць:
куды яго дзець ім.
І вось яны сваю знаходку дорацць
усім сустрэчным з усмешкай добрай
і, шчырыя, не могуць яе ніяк раздарыць.
...Ім давялося адзіноту згубіць!

## ЗГАДАЙ

Праз колькі летаў, зімаў,
спякот і завірух
сказала мне:
— Любімы,
згадай за вёскай луг,

нібы дыван сатканы,
ён краскамі расцвіў.
Згадай, як закаханы
мяне туды вадзіў.

Гулі чмялі, і пчолы
звінелі. Жаўрукі
ранялі з неба долу
пявучыя званкі.

А ты згадай, якою
шчаслівай я была!
Я краскай лугавою
на цэлы свет цвіла.

Згадай і пацалунак,
мядовы першы той,
такі наіўны, юны
пад старою вярбой.

...Даўно няма вярбы той,
і луг даўно адцвіў.
— Ты толькі не распытвай,
як я цябе згубіў.

## НАЧНАЯ РАЗМОВА

— Ты — мой ясны, мой адзіны свеце,
ты — мой неспакой.
Яблынька мая у веснім квеце,
што з табой?

— Конікі ў густой траве стракочуць,
шэпча клён.
Не магу вачэй я звесці ўночы,
не прыходзіць сон.

— Не хвалюйся, любая, я вокны
зараз зачыню,
і адразу конікі замоўкнуць,
слухай цішыню.

— Цішыня ўначы мяне трывожыць,
ранаю баліць:
и такою стала непрыгожай,
што рабіць?

— Кожнаю вясною нас чаруюць
квеценню сады,
ды найбольш мы восень залатую
любім за плады.

Хутка чалавечак невялічкі
загалосіць жаўруком:
глянь — грудзей дзве чыстыя крынічкі
набрынялі малаком.



прашу цябе, лёс, і малю:
калі мяне не стане,
Шануй і любі жанчыну маю,
няхай яе цвет не завяне,
не асыплецца, як пялёстак белы,
на дол анямелы.

Прашу цябе, лёс, і малю:
у горы цяжкім уцеш яе,
аберагай жанчыну маю,
самую апошнюю і самую першую,
не забывай парог яе хаты
і ў будні і ў святы.

Прашу цябе, лёс, і малю:
калі да мяне яна сцежку згубіць,
не дакарай жанчыну маю,—
няхай яна іншага палюбіць,
завядзі яе ў салаўіны гай,
вярні ёй май!

Прашу цябе, лёс, і малю:
калі мяне не будзе,
шануй і любі жанчыну маю,
напоўні малаком яе грудзі,
няхай яна корміць ім немаўляці —
зрабі яе маці!
Няхай ёй зайздросцяць людзі!

## БАНАЛЬНЫ РАМАНС

— Згадай, як сустрэліся мы
(Ні слова табе не схлушу),
Бухалі ў небе грамы,
Схаваліся мы ад дажджу.
Гэты банальны раманс
Толькі датычыцца нас.

Схаваліся мы ад дажджу
Пад шатамі ліпы старой,
У вочы твае я гляджу:
— Не бойся, кажу, ты са мной.
Гэты банальны раманс
Толькі датычыцца нас.

— Не бойся, кажу, ты са мной,
Перачакаем дождж,
Не вечна яму ісці,
Скончыцца ён усё ж.
Гэты банальны раманс
Толькі датычыцца нас.

Скончыцца дождж усё ж,
Вясёлка будзе свяціць,
Пойдзем пад ёй басанож,
Куды зажадаеш ісці.
Гэты банальны раманс
Толькі датычыцца нас.

Гром над зямлёй адгрымеў,
Хмара за бор сплыла.
Рад, што цябе сустрэў,
Што павальніца была.
Гэты банальны раманс
Толькі датычыцца нас.



Навошта ты такі агонь
пякельны распаліла?
Хацеў я патушыць яго,
ды не хапае сілы.

Хацеў заліць яго вадой,
ды вырашыў спыніцца,
бо не знайшоў яшчэ такой
ні студні, ні крыніцы.

І што я толькі ні рабіў,—
не загасіў пажару,
якія лекі я ні піў —
ды не асіліў чараў,

якімі ты у свой палон
мяне ўзяла і міла
пацалавала — і агонь
у сэрцы распаліла.

І будзе ён заўжды палаць
рабінаваю гронкай
нават тады, калі маёй
ты будзеш любай жонкай.

* * *

— Разгледзеў я цябе ці не? —
пытаю у сваіх вачэй.
І вочы адказалі мне:
— Ты не сляпы, глядзі пільней.

— Ці чуеш сэрца яе стук? —
пытаю ў сэрца свайго я.
І сэрца адказала:
— Тут
я не дарадчыца твая.

Пытаю я у сваіх рук:
— Калі абдымеце яе?
І рукі адказалі:
— Нам
такой адвагі нестае.

Як мне цябе зразумець,
скажы, як казала калісьці?
Сыплюць бярозы медзь
лісцяў.

Птушкамі над галавой
кружаць, ляцяць пад ногі.
І дні бягуць чарадой,
ды толькі трывогі

светлыя
я не згубіў,—
кожная, як апраўданне:
веру яшчэ не згубіў
у прамяністае ранне,

хапае яшчэ святла
і цеплыні даволі,
хоць павуціннем сплыла
восень над полем.

Ні грому, ні бліскавіц,
зыркіх і асляпляльных.
Нібы паштоўка, ляціць
з бярозы ліст прывітальны.

* * *

Хоць завея за вокнамі кружыць,
душы маёй сад расцвітае:
Дык хадзем у вясну,
я табе падару, дарагая,
І вясёлку над лугам,
салаўіныя песні ў дуброве,
Гоман чыстай крыніцы,
з якой я напіўся любові.
І таму маё сэрца,
пакуль я жыву, яшчэ хоча
Зазірнуць, бы ў азёры,
ў твае чыстыя вочы,
Валасы твае гладзіць,
цалаваць твае шчокі і губы
І заўжды называць
дарагою і самаю любай.

* * *

Сёння я нават не магу злічыць,
колькі ў мяне было бяссонных начэй,
колькі я з табой сустрэў світанняў,
колькі ў нас з табой было пацалункаў.
Але той — самы першы —
мне і сёння шчаку апякае.

## ТАБЕ АДНОЙ

### I

Свяці, зара,— маёй любові росквіт!
Сустрэў цябе — ты мне адкрыла свет.
Ідуць гады — а ты, як макаў цвет,
У свеце непаўторным і дзівосным.
Яшчэ не адзвінелі нашы вёсны
І не згубіўся маладосці след.
Каго любіла, не прасі: «Любоў вярні»,
Віні мяне, а лепей — не віні.

### II

Віні мяне, а лепей — не віні:
Я не нашу у сваім сэрцы рэўнасць.
Ты для мяне — любоў, надзея, вернасць,
Вясёлкавыя, без хмурынкі, дні.
Нясу табе радкоў сваіх напеўнасць,
Іх, калі ласка, любая, прымі.
Скажу табе па шчырасці, калі
Я пад канём быў, быў і на кані.

### III

Я пад канём быў, быў і на кані.
З каня я падаў, ды садзіўся зноў я.
На Шклоўшчыне, у родным Прыдняпроўі,
Мяне за ўчынкі людзі не клялі,
А спачувалі, зычылі здароўя,—
І я не падаў духам ані-ні.
Я зоркі не магу хапаць з нябёсаў —
Так мне ў жыцці наканавана лёсам.

## IV

Так мне ў жыцці наканавана лёсам:
Самім сабой да скону дзён пражыць,
Збіраць грыбы, збіваць на сцежках росы,
На ніве важкі колас узрасціць
І, дзе б ты ні была — за сотні вёрстаў —
Адну цябе і помніць і любіць.
Не заблудзіся толькі ты ў трох соснах,
Любоў мая — мой неспакой і роздум.

## V

Любоў мая — мой неспакой і роздум,
Як у бусла на матчынай страсе:
Ён, пабываўшы у вандроўках розных,
Не пазабыў мясціны нашы ўсе —
На Шклоўшчыне іх вельмі шмат, дзівосных,
І ўсе яны ў вясёлкавай красе.
Трывогу прэч ад сэрца адгані
Асенняю парой у цішыні.

## VI

Асенняю парой у цішыні,
Калі на дол з бярозы ліст злятае
І ўсё агністай барваю палае,
Як вокны, сэрца насцеж расчыні
І голас свой падай з далечыні —
І я Сібір далёкую згадаю,
Любімую і блізкую тваю.
Ніяк — павер! — любоў я не ўтаю.

## VII

Ніяк — павер! — любоў я не ўтаю —
Хто за любоў, скажы, мяне асудзіць? —
Яна і ў студзень сэрца не астудзіць,
Не здрадзіць, радасць у жыцці абудзіць:
Гаючая і чыстая крыніца,
Я п'ю цябе і не магу напіцца.
Пакуль жыву на свеце і люблю,
Я смагу Енісеем уталю.

## VIII

Я смагу Енісеем уталю,
З далоні чыстай свежасці нап'юся,
Нібы грахі ў саборы адмалю,
І грэшніцы я ў ногі пакланюся.
Зямных я не пазбавіўся турбот —
Наканаваў жыццё такое лёс так.
Збіраюць пчолы верасовы мёд —
Свяці, зара,— маёй любові росквіт.

### Магістраль

Свяці, зара,— маёй любові росквіт!
Віні мяне, а лепей — не віні:
Я пад канём быў, быў і на кані —
Так мне ў жыцці наканавана лёсам.
Любоў мая — мой неспакой і роздум,
Асенняю парой у цішыні.
Ніяк, павер, любоў я не ўтаю,
А смагу Енісеем уталю.



Я не хачу ад цябе
Нічога больш,
Акрамя аднаго,
Мой дарагі,
Ясны,
Любімы свеце:
Аддай ты мне толькі
Свой цяжкі,
Невыносны боль,—
Я з сабою вазьму яго
Навекі,
Пакуль буду жыць
На гэтым свеце.
Хай будзе мне цяжка, любая,
Павер:
Я ўсё вытрымаю, перацярплю
І доктару скардзіцца не буду,
Што сэрца шчыміць,
Не дае спакою,
Несучы твой боль,
Я цябе
Яшчэ мацней люблю.
Любая,
Ясны мой свеце,
Сонца маё залатое,
Ты — адзіная і непаўторная —
Вясна маладосці гулкай,
Якая ў звонкай дуброве,
Узняўшы світальныя промні —
Нябачныя сонечныя струны —
Звоніць-іграе,
Нараджае чароўныя гукі,
І яны, чуйныя чарадзеі,
Пазбавяць ад болю і суму.

Я ў гэтым упэўнены,
Як упэўнены ў сябе самога:
У мяне хопіць сілы
Забраць, перанесці твой боль,
Каб толькі ты
Ніколі не знала трывогі,
Каб болей ніводнай слязінкі
На вейках тваіх не было.
Хай мне найлепей будзе
Цяжка, невыносна, балюча,
Аддай, калі ласка, любая,
Боль свайго палыновага смутку,
Боль маўклівы,
Як камень на сэрцы, трывогі,
Я ведаю крыніцу гаючую,
Хадзем, калі ласка, да яе,
Ты толькі напіся
Яе крыштальнай вадзіцы,
Якую нават сонца
У поўдзень спякотны п'е,
І боль цяжкі, невыносны
Здыме нібы рукою,
І зноўку ты будзеш крочыць
Пад радугай
Маладою.



Скажы, ці варта мне даводзіць:
з заходу сонца не ўзыходзіць,
на камні колас не расце,
зімою ружа не цвіце,
не стане хвойнік спелым садам
і праўдаю хлусня і здрада?

* * *

Хоць бывае ў сэрцы балюча іголкамі коліць,
ды пакуль я жыву,
ты заўсёды са мною, зямная любоў.
Як пакінуць цябе? Я не паверу ў такое ніколі,
Ты — рака ў паўнаводдзе,
якая выходзіць з сваіх берагоў,
затапляе лугі і кустоўе. Ды толькі няма небяспекі
для мяне, хоць далёка мне да юнака:
хоць у летнюю спёку мялеюць глыбокія рэкі,
ды не высахне толькі ніколі любові жывая рака.

* * *

...А я нікуды ад цябе не збег.
Кругаварот — закон прыроды вечны:
адліга — і капеж цурчыць са стрэх,

І чалавек зрабіўся чалавечным:
на сэрцы адлягло, прыбавілася ласкі...
Пад сонцам ясным і пад Шляхам Млечным

усё папрыгажэла на зямлі.
Нібыта цэпам на таку адляскаў
за лесам гром. І хмары ўсе сплылі.

І неба — глянь — начышчана да бляску.
І толькі басавітыя чмялі
гудуць, не замаўкаючы, на красках.

* * *

Маўкліва, нібы нямы,
прайсці праз дымы і грамы,
праз сцюжы, пякельныя спёкі,
маўчанне глыбокай начы,
узняцца з зямлі пад аблокі
і крылы не апячы,
адкрыта глядзець вачыма
толькі з табою магчыма.



Калі памру, дык стану я
тваім, любімая зямля:

густой, зялёнай, маладой
вясною прарасту травой,

дзе будуць краскі — дзіўны сон —
і не змаўкаць пчаліны звон.

Магчыма, будзе і няўцям,
што рукі працягнуў я вам

адтуль з маўклівай цішыні,
дзе я свае праводжу дні.

А вы паслухайце траву,
яе дыханне — я жыву,

на свет з'яўляюся штогод
і сустракаю сонца ўсход,

не дакарайце, што маўчу,—
я проста памаўчаць хачу.



# ЗМЕСТ

## Гекзаметр баразны



## Перад парогам матулінай хаты

## Чатыры пары года



## Пад крылом жаўрука

**Крупенька Я.**

К 84 Гекзаметр баразны: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 191 с.

ISBN 5-340-00198-9.

Крупенько Е. Гекзаметр борозды: Стихи.

У сваёй кнізе вядомы беларускі паэт Яўген Крупенька перадае трывогу сучаснага свету, цвёрдую рашучасць савецкіх людзей адстаяць мір і шчасце людзей на Зямлі. У многіх творах апяваецца дружба народаў, прырода; цікавыя вершы пра каханне.

Шмат якія радкі паэта перакладаліся на рускую і украінскую мовы.

К $\frac{4702120202-161}{М302(03)-88}$ 53—89 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

**Крупенько Евгений Михайлович**

**ГЕКЗАМЕТР БОРОЗДЫ**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Крупенька Яўген Міхайлавіч**

**ГЕКЗАМЕТР БАРАЗНЫ**

Вершы

Рэдактар *Р. М. Яўсееў.* Мастак *В. М. Бароўка.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна.* Карэктар *Н. У. Доваль.*

ІБ № 3039

Здадзена ў набор 06.06.88. Падп. да друку 23.09.88. АТ 09689. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,80. Ум. фарб.-адб. 7,80. Ул.-выд. арк. 5,10. Тыраж 2500 экз. Зак. 1522. Цана 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.